

Ева Рыгаровіч→3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Вера ды Валера→8


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl



№ 33 (2989) Год LVIII | Беласток, 18 жніўня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# У Ліпінах — актыўныя людзі



Члены аб'яднання «Крыніца». Справа — старшыня аб'яднання Іаанна Кірылюк ды солтыс Ліпін і заадно віцэ-старшыня аб'яднання Кацярына Якубоўская

Калі, вяртаючыся з «Крыначкі» або едучы на прагулку ў Белавежскую пушчу, праязджаў я праз асноўную частку вёскі Ліпіны, прыходзілася спазіраць на запушчаны будынак вясковай святліцы, якая чакала грунтоўнага рамонту. Закончыўся ён нядаўна. Адначасна на гмінным участку, ззаду святліцы, былі зроблены вялікая гульнявая пляцоўка для дзетак і спартыўная пляцоўка, якімі сталі карыстацца жыхары гэтай раскладзенай побач самай Гайнаўкі вёскі. Апошнім часам стала яна бурна разрастацца, асабліва тая частка сяла, якую мясцовыя называюць новымі Ліпінамі. Новапасяленцы будуюцца побач заасфальтаваных вулічак, выкананых на выдзеленым участку, ад якога ўжо некалькі соцень метраў да бліжэйшай гайнаўскай забудовы. Участкі пад будову дома наогул можна купіць у Ліпінах танней, чым у самой Гайнаўцы і гэта спрыяе разбудове вёскі. Гістарычныя Ліпіны практычна абапіраюцца аб Белавежскую пушчу і таму тут таксама на вольных участках будуюцца новыя дамы і хутка рамантуюцца старэйшыя хаты. Нельга Ліпіны назваць гайнаўскай спальняй, як называюць далей раскладзеныя ад цэнтра жыллёвыя кварталы гарадоў. Тут жывуць актыўныя людзі, якія паставілі на культуру і актыўны адпачынак у Белавежскай пушчы і яе наваколлі. У красавіку гэтага года ў Ліпінах было заснавана аб'яднанне «Крыніца», якое гуртуе не толькі жыхароў прыпушчанскага сяла, але таксама асоб з Гайнаўкі, Старога Беразова, Новага Беразова і Белавежы, якія ахвотныя рэалізаваць супольныя задумы ў галіне культуры, да таго з ухілам на мясцовыя традыцыі. Спаткаліся яны ў час беларускага фэсту, які ў ліпені наладзіла ў Ліпінах Галоўнае праўленне БГКТ, войт Гайнаўскай гміны, Гмінны асяродак культуры ў Дубінах і актыў прыпушчанскай вёскі, у час якога адбылося таксама адкрыццё вясковай святліцы і цэлага рэкрэацыйна-спартыўнага комплексу ў Ліпінах.

## Беларускія песні і танцы

У час беларускага фэсту сабралася многа людзей, нягледзячы на пахмурнае надвор'е і дожджык, які стаў ісці ў пачатку фэсту. Многія гледачы даўгавата сядзелі і стаялі з парасонамі ў руках. Дзеткі, нягледзячы на дождж, бегалі побач сцэны і гулялі пад гукі музыкі. Пасля сталі танцаваць і старэйшыя. На сцэне ўдала запрэзентаваліся калектывы «Жаваранкі» з Махнатага, «Сказка» з Беластока», «Белы птах» з Мінска, «Падляшская капэла» з Сямятыч, «Ас» з Беластока, «Арт-Пронар» з Нарвы і «Прымакі» з Міхалова.

— Тут вельмі добрая атмасфера для спеваў і танцаў. Людзі з вялікім зацікаўленнем успрымалі нашыя выступы, — сказала кіраўнік калектыву «Белы птах» з Мінска Вольга Жышкевіч.

— Сёння цудоўнае беларускае мерапрыемства, якое ў асноўным ладзіць Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Я апісвала, як нашыя «Жаваранкі» ездзілі ў Брусель. Апошнім часам мы пабывалі ў Рэспубліцы Беларусь, у Мінску, дзе таксама спявалі свае беларускія песні. Калі я чую беларускую музыку, то душа асабліва радуецца. Сёння столькі беларускіх песень і такое вялікае беларускае свята, — гаварыла Анна Іванюк з махнацкіх «Жаваранкаў», былая старшыня гуртка БГКТ у Гданьску, якая пераехала на пастаяннае жыхарства ў Махнатае.

Дарота і Уладзіслаў Раманюкі, таксама з Махнатага дабавілі, што ўразіла іх вялікая колькасць публікі, якая не спалохалася дажджу, і адзначылі, што ў свеёй гміне асабліва добра спяваецца.

— Карыстаючыся еўрасаюзнымі сродкамі ў рамках праекта "Аднова вёскі Ліпіны" і дакладваючы да іх уласныя грошы, грунтоўна адрамантавалі мы святліцу ў Ліпінах і на нашым гмінным участку збудавалі спортпляцоўку і дзіцячую гульнявую пляцоўку, якія абгарадзілі і асвятлілі. Мы рады, што солтыс і іншыя маладыя людзі ў Ліпінах асабліва актыўныя і заснавалі аб'яднанне «Крыніца», якое дапамагло нам абсталяваць вясковую святліцу і стала ўжо рэалізаваць культурныя ініцыятывы. Мы будзем усцамагаць дзейнасць аб'яднання і іншыя вясковыя ініцыятывы, — заявіла войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч.

Старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі і сакратар гэтай арганізацыі Валянціна Ласкевіч падзякавалі спадарыні войт і дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Дубінах Раісе Кот за дапамогу ў арганізацыі фэсту.

## Актыўнае аб'яднанне «Крыніца»

У выдзеленым месцы, пад вялікім парасонам, стаялі маладыя асобы ў блакітных кашулях. Частавалі яны пячэннем і раздавалі рэкламныя матэрыялы новазаснаванага ў Ліпінах аб'яднання «Крыніца». Былі там солтыс Ліпін і заадно віцэ-старшыня аб'яднання Кацярына Якубоўская і старшыня аб'яднання Іаанна Кірылюк, якія расказалі аб арганізацыі. Запрасілі яны мяне ў адрамантаваны будынак вясковай святліцы.

— Мы хочам захоўваць культуру нашых продкаў, якая гіне на вачах, — сказала Іаанна Кірылюк, старшыня аб'яднання «Крыніца», якое карыстаецца лозунгам «Нават самая вялікая рака не існуе без крыніцы». — Мы выплываем з крыніцы, якой з'яўляюцца нашыя продкі, нашыя традыцыі і чэрпаем ад іх прыклады для нашай дзейнасці. Для маладшых ад нас мы самі з'яўляемся ўжо такой крыніцай. Хочам захаваць з мінулага тое, што найлепшае і дадаць яшчэ нешта новае. Працуем, каб інтэгравацца і паднесці свядомасць вартасці нашай культуры, яе непаўторнасці.

Спачатку маладыя асобы з Ліпін наладзілі бульбафэст, у час якога можна было з'есці бульбяную кішку і дранікі. Тады выступілі калектывы «Жаваранкі» з Махнатага і «Ручаёк» з Белавежы. Ідэя заснавання аб'яднання ўзнікла пазней, сярод асоб, якія хацелі актыўна праводзіць вольны час, супольна гуляць і супольна ладзіць разнародныя мерапрыемствы. У сакавіку гэтага года адбыўся ўстаноўчы сход, а 30 красавіка аб'яднанне «Крыніца» зарэгістравалі ў KRS.

— Непадалёк ад нашай вёскі знаходзіцца славутая крыніца, якую называюць «Крыначка», дзе паміж старымі дубамі ў час Святой Тройцы збіраецца многа людзей для малітвы. Гэтае месца было таксама стымулам да нашай супольнай дзейнасці. Зараз аб'яднанне «Крыніца» рэалізуе праект «Вёска Ліпіны. Супольна гуляйма і працуйма», наладзіла кулінарныя майстар-класы і атрымала сродкі, якія выкарысталі мы на абсталяванне кухні ў святліцы. Наладзілі мы Дзень дзіцяці ў Ліпінах, з конкурсамі; Запусты перад Пятровым постам, пад акампанемент акардэона; ездзілі ў Збуч, дзе ў час мерапрыемства арганізаванага Студзіводскім музеем вучыліся даўнім танцам. У гэтым годзе таксама маем намер арганізаваць бульбафэст, які можа стаць візітнай картачкай нашай вёскі. Зараз, як у новых, так і ў старых Ліпінах адносна многа маладых людзей і дзетак, чаго наогул няма ўжо ў нашых сёлах, — расказвала солтыс Ліпін Кацярына Якубоўская. — «Крыніца» будзе дзейнічаць у карысць жыхароў Гайнаўскага павета, якія хочуць захаваць свае традыцыі, культуру і наваколную прыроду. Я выхавалася ў Трасцянцы, дзе беларускай мове вучыла і прывівала любоў да беларускай культуры і нашых традыцый настаўніца беларускай мовы Галена Тапалянская. Сваё месца на Зямлі я знайшла тут, у Ліпінах. Калі ёсць ахвотныя супольна дзейнічаць, то можна многа зрабіць. Мы адкрытыя на супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі, якім блізкія нашыя вартасці. Шукаем крыніц фінансавання нашай дзейнасці, каб рэалізаваць розныя праекты ў карысць мясцовага грамадства.

Зараз члены аб'яднання «Крыніца» збіраюць старыя здымкі і робяць адбіткі. Збіраюць таксама ўспаміны старэйшых людзей. Запісалі цікавы аповед аб Ліпінах, якія асталіся нязнішчанымі ў час апошняй вайны. Пасля размовы ўбачыў я членаў «Крыніцы» побач сцэны, дзе сталі яны танцаваць пад беларускія песні. Калектывы сталі заахвочваць астатнюю публіку да больш актыўнага супрацоўніцтва з выступаючымі.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**





# Калі мы развітаемся з СССР?

Калі наша краіна Беларусь развітаецца з СССР?

Беларусь развітаецца з СССР тады... Калі прэзідэнт краіны перастане абірацца пажыццёва. Калі знікнуць усе „вярхоўныя саветы” і палаты, а будзе „Найвышэйшая Рада”. Калі „пяцілетку” перастануць выконваць за тры з паловай года. Калі эпоху ўвогуле не будуць дзяліць на „пяцілеткі”. Калі з цэнтральных пляцаў краіны прыбяруць усе танкі, гарматы, гаўбіцы, кулямёты, штыкі, жалезных і гіпсавых салдат з нечалавечым выразам твару. Калі галоўным святам дзяржавы перастануць быць чарговыя ўгодкі Другой сусветнай вайны. Калі калькасць ветэранаў гэтай вайны не будзе павялічвацца з кожным годам. Калі тыя, што ездзяць на нямецкіх машынах, перастануць завязваць на аўтамабільных антэнах георгіеўскія стужачкі. Калі перад кабінетамі чыноўнікаў выканкама не будуць сядзець жывыя бар'еры — міліцыянты. Калі не будуць расстрэльваць за тое, што нехта нешта ведаў, але не данёс. Калі затрыманых не будуць збіваць у пастарунках. Калі ў судах галоўным будуць кодэкс і закон, а не тэлефон. Калі ў войску будуць служыць хлопцы, а не „дзяды”. Калі тэлефоны будуць служыць для размоваў, а не для праслухоўвання.

Калі дзіцячыя дамы апусцеюць хоць на палову. Калі заробак рабочым перастануць выдаваць абуткам і радыёпрыёмнікамі. Калі вяскоўцам будуць плаціць за літр здадзенага малака хоць бы столькі, колькі каштуе літр кока-колы. Калі ніхто не будзе выходзіць на ленінскія суботнікі. Калі з назваў айчынных газет знікне слова „правда”. Калі дзяржаўныя прадпрыемствы перастануць „добраахвотна” спансараваць футбольныя і хакейныя клубы. Калі ў помніках архітэктуры не будуць месціцца турмы. Калі кожнае лета ў кватэрах і гатэлях перастануць адключаць на некалькі тыдняў гарачую ваду. Калі былыя дэсантнікі перастануць купацца ў гарадскіх фантанах. Калі на межах знікнуць чэргі і гэтыя межы можна будзе праспаць. Калі бязвізавы ўезд будзе не толькі ў Казахстан і Узбекістан. Калі валюту ў банках можна будзе купіць без пашпарта, а рублі памяняюцца на талеры.

Калі будзе прайграна хоць адна бітва за ўраджай. Калі на вёсках стануць садзіць акрамя бульбы іншыя агракультуры. Калі перастануць карчаваць і высінаць дрэвы дзеля павелічэння пасяўных плошчаў і пераходу на мясцовыя віды паліва. Калі ягадна-пладовы „бімбар” перастануць называць вінам. Калі ў кавярнях перастануць рэзаць сурвэткі на чатыры часткі. Калі ў грамадскіх прыбіральнях, прычым платных, перастануць выдаваць туалетную паперу заранёў адмеранымі і надранымі кавалкамі. Калі чэмпіянат краіны перастануць называць першынством рэспублікі. Калі да пяцідзесяцігадовай касіркі не будуць звяртацца „дзевушка”, а дваццацігадовая афіцыянтка будзе разумець, што такое кава і гарбата. Калі ў тую ж каву і гарбату ў рэстаране можна будзе ўсыпаць цукар самому. Калі тую ж касірку перастануць называць касірам, а бухгалтарку — бухгалтарам. Калі ў піцэрыі, якая працуе з 11-ці гадзін, на ўваходзе ў гэты час табе не скажуць: „Трэба чакаць яшчэ паўгадзіны, пакуль нагрэецца печ!”. Калі спартовак перастануць называць спартсменкамі. Калі не будзе планаў па колькасці заваяваных алімпійскіх медалёў.

Калі атамныя станцыі перастануць будаваць без грамадскага абмеркавання і без праекта. Калі на ўзлесках перастануць фарбаваць камяні, а ў гарадах вывешваць чырвона-зялёныя палотнішчы. Калі на школах не будуць вісець транспаранты „Добро пожаловать”, а ў дзіцячых садках — „графики мероприятий”. Калі ў крамах знікне „савецкае шампанскае”. Калі Новы год не будзе святкавацца цягам месяца. Калі рэзідэнцыю Дзеда Мароза перанясуць за Смаленск, а „лінію Сталіна” — у Маскву.

Калі нас, беларускамоўных, перастануць лічыць настаўнікамі беларускай мовы і пытацца чаму мы размаўляем на роднай мове.

Вось тады мы напэўна назаўсёды развітаемся з СССР...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Наўкола і адно й тое самае

Ой, будзе рабіцца ў Беларусі! Як гаворыцца ў паведамленні беларускага ўрада, з 1 ліпеня гэтага года павінна была пачацца рэдукцыйнае скарачэнне ў дзяржаўных установах і мясцовай адміністрацыі. У пастанове № 168 заявілі, аднак, што скарачэнні не закрануць КДБ, міністэрстваў унутраных спраў і абароны, памежных войск і спецслужбаў. І гэта правільна. Ніякая дзяржава не можа абысціся без войска ці паліцыі, асабліва спецслужбаў, а тым больш Лукашэнка, які пабудаваў сваю ўладу менавіта на іх. Гэта дзякуючы ім душыць зародак грамадзянскага бунту і незалежнай палітычнай думкі. Ён разбурае дух народа, раўняе да шэрагу бяздумных мурашак грамадства ў цэлым. Не існуе ніякіх сумневаў, што без іх не быў бы «чарговым» прэзідэнтам. Такім чынам, можна зрабіць такую выснову, што трымае ён сваю ўладу разам са службамі бяспекі. Таму яму ў галаву не прыходзіць паменшыць іх асабовы састаў, таму што тады як быццам бы адшчыкваў сябе самога. А гэта ж было б чыстым канібалізмам. Самапад'едствам. Самападгрызаннем. Самапраглынаннем. Хаця... тэарэтычна кажучы, гэта было б магчымым. Зусім нядаўна, год назад, прэзідэнт зрабіў у рэшце рэшт заяву, што «есць толькі тое, што беларускае». А беларус ён на сто працэнтаў, толькі што «гаварашчы па-руску». Пытанне ў тым, ці любіць ён самога сябе?

Тым не менш, у эпоху эканамічнага і фінансавага крызісу, калі грамадства бяднее, трэба кагосьці адсунуць ад дзяржаўнага карыта. І выпала — пук! — на верны, хоць і насіўны бюракратычны апарат. Вядома, аднак, што кожны чыноўнік будзе абараняць дараваную пячатку, як мурашка тлю. Хай ніхто не здзіўляецца на гэтае параўнанне. Мурашка доіць тлю з салодкай мачы, не звяртаючы ўвагі, што тая высмоктвае жыццёвыя сокі з лісця. Не ў галаве ёй, што ліст і ўся расліна павольна паміраюць. Мурашка не ахоплівае ўсіх падзей. З іншага боку, падзеі не паспяваюць за ходам мыслення мурашкі. Калі адна расліна адмірае, мурашка пераносе ферму тлей на іншыя, яшчэ жывыя. Падобна чыноўнік. У яго ж сям'я на ўтрыманні, ёсць мары аб прыгожым доме з садам, аб экзатычных падарожжах. Для яго важнае, што адбываецца цяпер. Таму лупіць штампам па афіцыйных паперах, аж туш распырскваецца. Так хоча паказацца важным і незаменным! Але няма незаменных людзей. Акрамя Лукашэнкі — вядома! Неўзабаве абтрасецца па скарачэннях беларускі бюракратычны апарат. Тыя, хто сыходзіць з офісаў, неўзабаве знойдуць для сябе новы стол і пячатку. Мабыць, менш уражваючы стол і менш важны штамп, але праца ёсць праца. І ў агульным няцяжкая. А калі не знойдуць работы, напэўна падмацоўць сваёй незадаволенасцю беларускую апазіцыю. Сацыяльная падтрымка ў цяперашні час для яе слабая. Але тысячы звольненых чыноўнікаў і адукаваных людзей, якія ў стане сфармуляваць свае рацыі, — гэта дадасць ёй новую энергію. Гэта пацягне за сабой неабходнасць умацавання апарату прыгнёту. У выніку з'явяцца новыя працоўныя месцы, створаныя ў службах бяспекі. Хутчэй за ўсё, пасады знойдуць там звольненыя чыноўнікі. Такім чынам, усё вернецца ў нармальнае рэчышча. Разрослую апазіцыю хутка здушаць падмацаваныя новымі штатамі службы. Так што вялікую частку поспеху ў барацьбе з раздзьмутай бюракратыяй прэзідэнт прыпіша сабе. І зноў жа будзе абраны прэзідэнтам.

Скарачэнне высокапастаўленых чыноўнікаў спатрэбілася б у Польшчы. Нягледзячы на напышлівыя аб'явы Туска і раней Качынскага, той бюракратычны «дзяржаважэр» расце з пагрозлівай хуткасцю. Дзяржава пры гэтым працэсе з'яўляецца бездапаможнай. Ды ў пэўным сэнсе сама ў гэтым вінавата. Нават 15 гадоў таму службовых асоб у дзяржаўнай і мясцовай адміністрацыі было ў два разы менш, чым сёння. Але праўда ў тым, што было таксама менш правіл, кіруючых прынцыпаў і розных грамадзянскіх працэдур, навязаных установам заканадаўчай уладай, Сеймам і Сенатам, і ўскосна бюракратыяй ЕС. Падлічана, што кожная папраўка да закону цягне за сабой 5-працэнтнае павелічэнне занятасці ў канцылярскай службе. Праблема не так у бясклапотнай штататворчай палітыцы чарговых няўмелых урадаў, але ў бяздумнай заканадаўчай творчасці. Таму што кожную лагічную неадпаведнасць у законах неабходна карэктаваць і рэгуляваць міністэрскімі правіламі. З іншага боку, каб мець магчымасць для разгортвання існуючай праўна-адміністрацыйнай сістэмы, неабходная армія дзяржаўных служачых. І круг замыкаецца. І наўкола тое самае. Такая квадратура кола — што б гэта ні значыла.

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Самурай

У апошні час беластоцкімі сродкамі масавай інфармацыі распаўсюджвалася вестка, што два маладыя мастакі стварылі антырасісцкі роспіс-мураль на адным з блокаў на пасёлку Лясная Даліна. У гэтым месцы, бо тут дайшло да падпалу кватэр чачэнскай сям'і і сям'і, членам якой з'яўляецца індус. Да гэтага часу не ўдалося выявіць вінаватых. Мураль паказвае чорнаскурую жанчыну, якая здымае маску беласкурай жанчыны. У ніжняй частцы роспісу знаходзіцца цытата з Казімежа Пшэрвы-Тэтмаера: «Людзі розныя, усе роўныя».

— Жанчына здымае маску белага колеру і перастае хавацца, не баіцца паказаць свой цёмнаскуры твар. Мы хочам паказаць, што мы роўныя, незалежна ад колеру скуры, нацыянальнасці, рэлігіі, культуры або абычаю. Кожны чалавек мае права на свабоду, — тлумачыла журналістам падчас фарміравання працы яе сустваральніца Анна Кітляс.

Гэтая высакародная акцыя з'яўляецца важкай і ў мастацка-грамадскім аспекце. Тым не менш, на мой погляд, праблем расізму, ксенафобіі і шырока разуметай нецярпімасці ў Беластоку яна не вырашыць, так як і іншыя адзінкавыя падзеі-канцэрты, як той, які адбыўся ў сталіцы Падляшша некалькі тыдняў таму — «Беласток для талерантнасці». Неабходная так званая арганічная праца, доўгатэрміновая і паслядоўная, каб да адмоўных здарэнняў не даходзіла. Без сумнення, абсалютна неабходная пацыфікацыя асяроддзяў, ідэалогія якіх заснаваная на расісцкіх паняццях, і якія выводзяць на кожны дзень на сцэнах, пішучы нацыяналістычныя, антысеміцкія лозунгі, малюючы фашысцкую сімволіку і г.д. Я шчыра захапляюся паслядоўнасцю дзеянняў, зробленых у гэтай справе Рафалам Гаўлам, старшынёю Тэатральнай асацыяцыі «Дом на Млыновай», дырэктарам тэатра «Trzyrzecze», шматгадовым спецыялістам піру. На працягу некалькіх месяцаў ён вядзе акцыю каталагізацыі сімвалаў нянавісці, што паяўляюцца ў публічнай прасторы. Кожны можа паінфармаваць яго пра прыкмечаныя расісцкія, антысеміцкія ці іншыя гэтага тыпу надпісы на сценах, запоўніўшы невялікую форму на вэб-сайце тэатра «Trzyrzecze» (http://www.zamalujzlo.pl/). Рафал аб кожным здарэнні паведаміць у паліцыю ці непасрэдна падасць заяву ў пракуратуру з інфармацыяй аб магчымым злачынстве. Калі я гаварыў з ім нядаўна, ён сказаў:

— Мэтай акцыі ніколі не было само замалёўванне расісцкіх і ксенафобскіх надпісаў, толькі актывізанне ў сувязі з гэтым судовай сістэмы і праваахоўных органаў. На працягу многіх гадоў у Беластоку праграмна не ўзбуджаліся расследаванні, якія тычацца распаўсюджвання расізму, таталітарных сістэм. «Кібольскія» банды, якіх аб'ядноўвала ідэалогія, ператварыліся ў добра дзеючыя банды наркагандляроў, вымагальніцкія, якія чэрпаюць прыбыткі з прастытуцыі, і нават атрымлівалі наладзіць ім міжнародныя кантакты, напрыклад, з такімі ж арганізацыямі са «Спартака» Масква, футбольнай каманды, высока ўцягнутай у сувязі з мафіяй. Калі немагчыма вырашыць праблему зверху, мы рашылі зрабіць гэта самі. Да гэтага часу маем заяўленых каля чатырохсот такіх выпадкаў, і каля ста пяцідзесяці з іх падыходзяць для пераследу правасуддзем, і справа была ўзбуджана ў каля ста выпадках. Паліцыянты, цікава, чуюць тэму і тое, што нашы намаганні гэта для іх шанц разбіць гэтыя асяроддзі.

Падкрэсліў:

— Мы змаглі пераадолець нейкае мысленне беластоцкай пракуратуры. Паліцыянты распавядалі мне, як калісь гэтых людзей, што распаўсюджваюць расавую ці нацыянальную нянавісць, падавалі як на талерцы, а пракуратура амаль аўтаматычна адмаўлялася ўзбуджаць справу. Нам удалося давесці да таго, што чатырох пракурораў па прычыне якраз такіх рашэнняў аб адмове ва ўзбуджэнні справы маюць дысцыплінарныя разборы, а да гэтага віду злачынстваў сталі ставіцца вельмі сур'ёзна. У цэлым, гэта пакуль дзесяць адсоткаў таго, што нам удалося зрабіць у справе расісцкіх ці ксенафобных правадзін у Беластоку.

Я ўражаны дзейнасцю Рафала Гаўла і я моцны — так бы мовіць — яе заўзятар.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Размова з **Евай Рыгаровіч** з Гайнаўкі — віцэ-старшынёй Гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія, якое арганізуе паломніцтвы ў праваслаўныя манастыры і прыходы Беларусі, Украіны і Расіі, а таксама пілігрымкі ў праваслаўныя святыні Польшчы. Будучы раднай горада Гайнаўкі, дзейнічае яна ў карысць мясцовага грамадства.


Фота Аляксея МАРОЗА

Ева Рыгаровіч

# У святых месцах Бог асабліва чуе нашы малітвы

**— Вашыя выезды ў святыя месцы пачаліся з Кіева-Пячорскай і Пачаеўскай лаўраў і гэта хіба было штуршком да арганізавання Вамі паломніцтваў праваслаўным вернікам з Гайнаўшчыны і прыезджым.**

— Першае маё паломніцтва ў Кіева-Пячорскую і Пачаеўскую лаўры выклікала ў мяне асаблівае захапленне абедзвюма святынямі. Я была пад вельмі вялікім уражаннем ад колькасці мошчаў і іншых рэліквій, а таксама ад духоўнасці манахаў. У Кіеве я старалася маліцца ў час ранніх літургій у пячорах пры мошчах святых. Калі ёсць такая магчымасць, то я і цяпер стараюся ладзіць паломніцтва за адным разам і ў Пачаеў, і ў Кіеў. Калі я была яшчэ вучаніцай, а мой дзядуля быў старастам у царкве ў Семяноўцы, даў мне малітоўнік з малітвай да Божай Маці, якой я карысталася ў час маіх малітваў. Пабываючы ў Пачаеўскай лаўры я даведалася, што гэтая малітва чытаецца менавіта перад цудатворнай іконай Пачаеўскай Божай Маці і гэта яшчэ ўзмоцніла маю прывязанасць да Пачаеўскай лаўры. Перада мной старшынямі гайнаўскага аддзялення нашага брацтва былі Ян Андраюк і Нэля Шчука. Калі я стала старшынёй брацтва, рашыла больш масава арганізаваць паломніцтвы, каб вернікі мелі магчымасць пазнаёміцца са святынямі ў розных краінах.

**— Апрача напрамку ва Украіну Вы ладзіце паломніцтвы ў Беларусь і Расію.**

— Мы арганізавалі паломніцтвы ў Мінск, дзе заязджалі ў Свята-Елізавецінскі жаночы манастыр, у якім манашкамі ёсць жанчыны родам з Гайнаўкі. Наведвалі Жыровіцкі Свята-Успенскі мужчынскі манастыр. У меншых групах ездзілі ў Спаса-Праабражэнскі мужчынскі манастыр у вёсцы Хмелева, што побач нашай мяжы з Беларуссю. Хацелі ладзіць пілігрымку ў Спаса-Еўфрасіннеўскі жаночы манастыр у Полацку, але не сабралася адпаведная колькасць паломнікаў. У Расіі пабывалі мы ў манастырах у Сяргіевым Пасадзе, Дзівееве, Опцінай Пустыні, Маскве, у Пскова-Пячорскім і Пюхціцкім манастырах, на Салавецкіх астравах, на востраве Валаам, дзе адраджаецца манаскае жыццё. Раней мы ладзілі больш паломніцтваў у Беларусь і Расію, але калі на паездкі ў гэтыя краіны сталі патрабавацца візы, то найбольш пілігрымак ладжу я ва Украіну, куды можна выязджаць без віз, толькі з важным замежным пашпартам. Робіць гэта выезды больш таннымі і даступнымі для шырэйшага кола вернікаў. Я заўважыла, што на даражэйшыя паломніцтвы ездзіць менш жыхароў Гайнаўшчыны, а больш ужо ахвотных з Бельска-Падляшскага і Беластока. На нашыя паломніцтвы запісваюцца таксама людзі з праваслаўных прыходаў з усёй Польшчы. Зараз лёгка паехаць у Вільню, бо ў Літву можна падарожнічаць толькі з асабістым пашпартам. У бязвізавым парадку мы выязджалі яшчэ ў Святагорскую Успенскую лаўру ва Украіне і ў манастыры на Крыме.

**— Падарожжа па манастырах гэта наогул доўгія малітвы як у храмах, так і ў час самога аўтобуснага падарожжа. У час паломніцтваў абавязвае дысцыпліна і свой рэжым дня. Як успрымаюць гэта новыя паломнікі?**

— У час пілігрымак адпачывае і радуецца душа. Хаця цела бывае стомленым з-за працяглых багаслужбаў і доўгага аўтобуснага падарожжа, наогул паломнікі ведаюць дзеля чаго збіраюцца ў замежную пілігрымку, нават тыя, што едуць упершыню. Людзі едуць у святыя месцы з просьбамі да Бога, шукаюць заступніцтва ў Божай Маці і святых. Некаторыя адпраўляюцца ў пілігрымку, каб падзякаваць Богу за вырашэнне іх праблем. Зараз паломнікі — патрабавальныя людзі, таму стараемся, каб начлежныя ўмовы і харчаванне былі на пэўным узроўні, што, канешне, павышае кошты выездаў. Калі я еду ў паломніцтва, адчуваю вялікую духовую радасць, сутыкаючыся з рознымі святынямі. Стараюся пакінуць дома ўсе праблемы. Хаця малюся за іх станоўчае вырашэнне, то ў час пілігрымкі стараюся не думаць аб іх. Жыллёвыя і транспартныя ўмовы мне менш важныя. Падобны падыход і ў многіх нашых паломнікаў. Аднак здараюцца надзвычай патрабавальныя пілігрымы і трэба ім адводзіць асаблівую ўвагу, каб дагадзіць адной або некальким асобам. Калі ў час пілігрымкі здараюцца праблемы, я прашу заступніцтва ў Божай Маці і святых, і заўсёды ўдавалася мне іх вырашаць, бо ў святых месцах Бог асабліва чуе нашы малітвы.

**— Праз арганізаваныя Вамі паломніцтвы правінулася многа пілігрымаў. Ці ў святых месцах здараліся цудоўныя аздараўленні?**

— Пасля малітваў у Пачаеўскай лаўры і іншых месцах здараліся цудоўныя аздараўленні, бо пасля паломнікі вярталіся, каб дзякаваць Богу за вылечэнне ад пухліны. Здаралася, што хворыя перасталі ў час паломніцтва браць лякарствы, але цяжка сказаць, што з імі было пазней. Многа асоб просіць у Бога дапамогі ў вырашэнні сямейных праблем, каб знайсці працу і тут нельга даказаць, што іх справы вырашыліся пасля малітваў. Але людзі ў гэта вераць.

**— Гайнаўскае аддзяленне Брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія займаецца таксама дабрачыннай дзейнасцю, але Вы хочаце заснаваць яшчэ ў Гайнаўцы сястрычаства.**

— Калі я стала гарадской раднай, то з-за вялікай колькасці абавязкаў адмовілася быць старшынёй брацтва і стала намеснікам старшыні. Аднак пад уздзеяннем сястрычаства, якое дзейнічае ў Мінску і якое пасля пераўтварылася ў Свята-Елізавецінскі жаночы манастыр, рашылася з жанчынамі, якія ўжо і раней дапамагалі патрабуючым людзям, заснаваць у Гайнаўцы сястрычаства пад наглядам Праваслаўнай царквы ў Польшчы. У нашым горадзе і наваколлі многа людзей патрабуе дапамогі. Я цяпер працую медсястрой у Анкалагічным шпіталі ў Беластоку і бачу там людзей, якія патрабуюць духовай і псіхалагічнай падтрымкі ад другога чалавека. Можна дапамагаць цяжка хворым і ў гайнаўскім шпіталі. Ёсць асобы, што жывуць адзінока, і мы такім асобам плануем дапамогу сястрычаства. Можа пасля ўдасца нам стварыць Дом апекі ў Гайнаўцы. Восенню гэтага года прадбачваем зарэгістраваць Сястрычаства імя Іаана Кранштацкага са статусам сацыяльнага фонду і старацца атрымаць нумар KPC, каб людзі маглі пералічваць на нашу дзейнасць 1% ад сваіх падаткаў. Патронам выбралі мы святога Іаана з Кранштата, які вельмі многа і аддана дапамагаў патрабуючым. Мае дзеці і муж бачаць, як я ангажуюся ў дзейнасць у карысць грамадства і таксама хочуць дапамагаць патрабуючым. Але я перасцерагаю дзяцей перад небяспекай, якая можа іх спаткаць, калі неасцярожна будуць ладзіць кантакты з незнаёмымі.

**— Вы ладзіце аўтобусныя паломніцтвы ў айчынныя манастыры — у Супрасль, Сакі, Яблачын і іншыя абіцелі. З Гайнаўкі ладзяцца пешаходныя пілігрымкі ў Крынiчку, на Грабарку, у Супрасльскі манастыр. Адкуль узнікла ідэя наладзіць пешаходнае паломніцтва ажно ў Пачаеўскую лаўру і як плануеце рэалізаваць гэтую задуму?**

— У мінулым я спаткала дзве старэйшыя жанчыны, якія ў міжваенны перыяд хадзілі пяшком у Пачаеўскую лаўру. Калі стала я арганізаваць аўтобусныя пілігрымкі ў Пачаеў, паўстала задума, каб пайсці пяшком, так як рабілі гэта нашы продкі. На прапанову адгукнулася каля сарака чалавек з Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага, Беластока і іншых мясцовасцей, а ў якасці духоўных апякуноў згадзіліся пайсці з намі айцец Марк Юрчук са Свята-Троіцкага сабора і айцец Павел Кучынскі з прыхода ў Вэрстоку. Ездзілі мы ў Беларусь і на Украіну, каб дакладна вызначыць маршрут пілігрымкі ды месцы начлегу і адпачынку. Прадбачаем, што ў Беларусі далучацца да нашага паломніцтва каля 150 пілігрымаў, а валынскі ўладыка Уладзімір заявіў, што павінны мы разлічваць, што нават тысяча паломнікаў з Украіны далучыцца да нашага паломніцтва. Там ёсць такая традыцыя, што людзі далучаюцца да пілігрымак па дарозе і быў нават такі выпадак, што ў Пачаеўскую лаўру прыйшло ў адным паломніцтве пад дзевяць тысяч чалавек.

**— Ці не баіцеся арганізаваць такое вялікае паломніцтва праз Украіну, калі далучацца да вас украінцы?**

— Мы размеркавалі адказнасць за пасобныя справы ў ходзе паломніцтва. Але я не магу нават уявіць сабе, як можна будзе нам кіраваць паломніцтвам, у якім будзе ісці звыш тысячы асоб. У Беларусі традыцыі пешаходных паломніцтваў толькі што адраджаюцца. Нам запрапанавалі, што праз Брэст перавязуць нас на аўтобусах, каб не тармозілі мы дарожнага руху. Але пасля два тыдні мы будзем ісці пяшком, каб зайсці перад святкаваннямі ў гонар іконы Пачаеўскай Божай Маці. На машынах будуць везціся толькі нашы клункі і харчаванне. Калі паспяхова дойдзем у Пачаеў і вернемся дамоў, то ёсць таксама ідэя наладзіць пешаходнае паломніцтва з Гайнаўкі на паўвостраў Кудак, да айца Гаўрыіла. Але гэтая пілігрымка будзе ўжо кароткай у параўнанні да паломніцтва ў Пачаеў, у якое хутка ўжо адправімся.

**— У верасні плануеце яшчэ наладзіць фэст здароўя.**

— II Праваслаўны фэст здароўя для жыхароў Гайнаўкі, наваколля і прыезджых запланавалі мы на 1 верасня ў гарадскім амфітэатры. Прадбачаем, што ў час фэсту будзе можна праверыць ціск крыві і ўзровень цукру. Прадугледжваем таксама даць духовую страву, таму запрашаем прадстаўнікоў манастыроў, каб можна было з імі пагаварыць на розныя тэмы. Можна будзе купіць праваслаўную духоўную літаратуру. Запрашаем айца Гаўрыіла з паўвострава Кудак, каб прыехаў з зёлкамі і расказаў пра іх вартасць. Будзе прадавацца здаровае харчаванне і, канешне, будзе гучаць наша музыка і нашы песні.

**— Дзякую за размову.**

**Гутарыў Аляксей МАРОЗ**

## Дзе сябры там і бяседа

*Ужо таму назад паўгода*
*быў назначаны дзянёк:*
*на „Сяброўскую бяседу"*
*затрывожыцца званок.*
*З краю, нават са сталіцы*
*ўсе найлепшыя сябры,*
*з Беларусі, з заграніцы*
*сабраліся ў Барык.*
*Тут пагутарым да заўтра,*
*абгаворым, што было,*
*застановімся, ці варта*
*цягнуць далей рамяство.*
*Песня сэрца занімае,*
*што адна мілей другое,*
*ці было калі, Бог знае,*
*так спатканне дарагое.*
*На сталах багацце смаку,*
*усё не здолець скаштаваць,*
*чуеш толькі „велькі дзякуй",*
*смак той векі буду знаць!*
*Так „Сяброўская бяседа"*
*родзіць радасць – цэль быцця.*
*Вып'ем чарачку з сябрамі,*
*каб лягчэй было прашчаць.*
*А за чарачкай другая,*
*успамінаць каб што было,*
*па-сяброўску пагулялі,*
*і сустрэнемся праз год!*

**Анатоль ПАРЭМБСКІ**

## Беласток прыгажэе

Кожны год у Беластоку аднаўляюць камяніцы, шматпавярховыя жылыя будынкі і вуліцы. У мінулым годзе аднавілі ратушу, будынак дзяржаўнага архіва, фасад высокага будынка ля скрыжавання алеі Пілсудскага і вуліцы Сянкевіча, будынка з прыгожымі дэкаратыўнымі элементамі на сцяне ад вуліцы побач гмаху Паліцыі пры вул. Сянкевіча ды шэраг камяніц.

Шмат інвеставалі ў выгляд будынкаў уладальнікі дамоў пры Рынку Касцюшкі і Ліпавай. Яны атрымалі фінансавую дапамогу гарадской управы. Рамонты выконвалі пад наглядам рэстаўратараў і горадабудаўнікоў. Важна было, каб дамы мелі эстэтычны выгляд, правільную каларытнасць ды ранейшыя дэкаратыўныя дэталі.

Папрыгажэў Беласток у раёне вуліц Каліноўскага, Млыновай і Кіеўскай. Цяпер тут пабудавалі прыгожыя будынкі (адзін з іх – Падляшская опера і філармонія) і новыя артэрыі. На 12 вуліцах у цэнтры горада маем роўныя і прыгожыя тратуары. А яшчэ не так даўно на вуліцы Млыновай быў брук з палявога каменя, стаяла кузня.,

Перабудоўваюць найбольш вядомую вуліцу Ліпавую, між іншым, пашырылі тратуар і пасадзілі новыя ліпы. Зараз аднаўляюць фасад камяніцы з нумарам 28 пры вуліцы Ліпавай. Мае яна цікавыя формы акон, характэрныя сакральнай архітэктуры. Будынак гэты з'яўляецца помнікам старадаўнасці. На яго рамонт уласнік атрымаў грошы ад горада.

Апрача гэтага аб'екта рамантуюць старыя камяніцы №№ 5 і 20 пры вуліцы Варшаўскай ды пры вуліцы Агародавай 2. Атрымаюць яны, між іншым, новыя дахі і фасады. За амаль мільён злотых парафія закончыць абноўку фасадаў касцёла св. Роха, які таксама з'яўляецца помнікам старадаўнасці.

**(яц)**

# Перад прэм'ерай «Трусоў»

Размова з **Конрадам Дулькоўскім**, рэжысёрам, драматургам, мастацкім кіраўніком беластоцкага тэатра «Trzyrzecze», вырашыўшым заняцца прасоўваннем беларускай драматургіі ў Польшчы, які зараз рэжысіруе (на рэпетыцыях) п'есу «Трусы» мінскага драматурга Паўла Пражко.



Фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**— Адкуль у Вас зацікаўленне якраз беларускай драматургіяй?**

Конрад Дулькоўскі: — Звярнуў на яе ўвагу некаторы час таму Раман Паўлоўскі (варшаўскі тэатральны крытык, ураджэнец Беластока — М. Х.). Я чытаў некалькі драм, напісаных у Беларусі, і аказалася, што па абодвух баках нашай мяжы драматургаў хвалююць падобныя пытанні. Аказалася, што польска-беларуская мяжа носіць хутчэй палітычны, чым рэальны характар, што наступіў штучны падзел у пэўны гістарычны момант, і людзі па абодвух баках маюць падобны менталітэт.

**— Што такое супольнае ў гэтых драмах?**

— Напрыклад, калі гаворка пра Паўла Пражко, чые драмы мне спадабаліся больш за ўсё з тых, што я чытаў, — кранаюць яны стан сучаснага чалавека і драбніцы існавання. Пражко партрэтуе людзей, якія страцілі свой шлях. Яны жывуць на высокім матэрыяльным узроўні, але ў іх жыцці адсутнічае мэта. Не вельмі ўмеюць рэалізавацца, каб выйсці за рамкі кароткатэрміновых, нізкіх, на самой справе, матэрыяльных ці сексуальных патрэб. Яго героі дробязныя. У «Трусах» уся грамада мястэчка, дзе адбываецца дзея, вельмі хутка знаходзіць сабе казла адпушчэння ў выглядзе дзяўчыны, якая хоча адтуль выбрацца, і для якой купленне загалоўных трусікаў, эксклюзіўных трусікаў праз інтэрнэт — гэта білет у лепшае жыццё. Між тым, усё навакольнае асяроддзе любой цаной хоча сцягнуць яе ўніз. Гэта вельмі падобна на тое, што гаворыцца пра палякаў. Як у жарце, у якім усе палякі гатуюцца ў адным пекле, але ніхто іх не мусіць пільнаваць, бо як хто-небудзь будзе прабаваць выбрацца з катла, іншыя неадкладна ўцягнуць яго назад. Гэтая драма расказвае таксама аб сацыяльных адносінах паміж большасцю і меншасцю, аб адказнасці за колішнія грахі ў дачыненні да меншасцей, што таксама ўпісваецца ў дзеянні «Trzyrzecza» супраць ксенафобіі, расізму, антысемітызму ў Беластоку і ўвесь дыскурс, звязаны з карычненнем Польшчы і настроямі ў адносінах да меншасцей.

**— Як Вы думаеце, чаму п'есы Паўла Пражко не ставяцца ў Беларусі, часам толькі некаторыя з яго п'ес прадстаўлены ў рамках лабараторных чытанняў?**

— Таму што ён рэзка крытыкуе беларускую рэчаіснасць. Рэжым Лукашэнкі, як і любы іншы рэжым, прабуе перакануць людзей, што ўсё выдатна і прыгожа, і што людзі не маюць іншых патрэб, чым тыя, якія рэжым сам забяспечвае. Пражко гэта падрывае. Прычым, гэтая крытыка не строга палітычная. Аднак утамашніх абставінах крытыка грамадскага жыцця адразу становіцца крытыкай сістэмы. Таму п'ес Пражко не ставяць.

**— Пражко — беларускі драматург — піша на рускай мове, а не па-беларуску. Ці гэта з пункту гледжання тэатра мае значэнне?**

— Для яго, я думаю, гэта яшчэ і пытанне выбару. Міф аўтара, пішучага ў стол, гэта толькі міф. Можа і файна прачытаць аб кімсьці, што гэта быў геніяльны пісьменнік, але ён пісаў толькі ў стол, і памёр у невядомасці, а быў знойдзены праз гады. Для самога аўтара пісанне ў стол гэта смерць, асабліва для драматурга, які з гэтай творчасці хоча жыць. Пражко, які піша на рускай мове, ставяць не толькі ў Маскве, але і, напрыклад, у Францыі. На жаль, у Польшчы ў цяперашні час ён малавядомы. Першыя яго прадстаўленніпрэзентацыі ў Польшчы мелі месца падчас Фестывалю рускага тэатра і драматургіі «Да! Да! Да!» ў Варшаве ў выкананні аднаго з рускіх тэатраў. Адбылося гэта дзякуючы перакладчыцы Агнешцы Любаміры Пятроўскай. У гэты час у тэатры-студыі ў Варшаве ставіцца ягонае «Жыццё ўдалося» (прэм'ера 22 чэрвеня, рэжысёр Марат Гацалаў з Расіі — М. Х.), пастаноўку якой мы таксама абмяркоўвалі.

**— Акрамя Пражко, у сферы інтарэсаў «Trzyrzecza» апынуліся і іншыя беларускія драматургі?**

— Мы ўвесь час знаходзімся ў кантакце з Мікалаем Рудкоўскім. Дарэчы, у апошні час дайшло да смешнай сітуацыі, калі ў Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку запрапанавалі яму чытанне яго п'есы «Вялікае перасяленне выралкаў», пра якую мы гаварылі з ім, каб яе паставіць. Ён напісаў нам, пытаючы, ці мы не супраць, што ў тым жа горадзе гэта будзе адбывацца. Канчаткова аказалася, што нам не ўдалося здабыць грошай, каб арганізаваць у найбліжэйшай будучыні другую беларускую прапрэм'еру. Мы пастаянна шукаем беларускіх сучасных драматургаў. Сярод тых, якіх я прачытаў да гэтага часу, я раблю выснову, што ёсць п'есы Пражко, пасля Рудкоўскага, а потым доўга, доўга нічога. Мабыць, дрэнна мы шукалі. Польскі тэатр пайшоў далёка наперад. Беларуская сучасная драматургія ў сваёй масе захоўвае жорсткія каноны акадэмічнага тэатра з мінулага. Я разумею, што самым смелым драматургам проста няма дзе паказаць сваю творчасць у Беларусі.

**— Таму пытанне, ці таму якраз у Польшчы такое мізэрнае, калі не сказаць ніякае, зацікаўленне сучаснай беларускай драматургіяй, або, назваўшы гэта інакш — драматургіяй, якая ўзнікае ў Беларусі?**

— Гэта для нас драматургія крыху экзатычная. Я хацеў бы, каб па-за Пражко або Рудкоўскім выявіць там незвычайныя драматычныя таленты. На жаль, нічога не атрымліваецца. Я думаю, што ў любым месцы, нават у Беларусі, ніхто не хоча мецць справу з чымсці, у чым поўнасцю не можна выказацца. Там няма цэнтраў падтрымкі маладых драматургаў. У Польшчы ёсць, да таго ж толькі з нядаўняга часу, і гэта яшчэ не такія, напрыклад, як у Лондане. Найбольш важнай праблемай драматычных тэкстаў, узнікаючых у Беларусі, з нашага пункту гледжання, з'яўляецца тое, што яны не адносяцца да мовы сучаснага тэатра. А ў Пражко бачым, што хлапец адчувае сцэну, ён ведае, што працуе тэатральна, а паасобныя сцэны ўздейнічаюць на гледача. І нават часам некаторыя інсцэніровачныя ідэі ўпісвае ў драмы, а дыялогі проста жывуць, і не толькі таму, што — так як у п'есе «Жыццё ўдалося» — кожнае другое слова гэта «курва», «хуй», хаця такая мова паказвае жыццё гэтых выраджаных герояў.

**— Ну вось, на канец, вяртаючыся да Паўла Пражко, якія аргументы Вы выкарыстоўвалі, каб пераканаць яго да пастаноўкі «Трусоў»? Я ведаю, што размовы з ім не найлягчэйшыя.**

— Я гэтага так не адчуваю. Мы абмяняліся некалькімі лістамі. Я прадставіў, хто мы такія, сваё бачанне і ён проста пагадзіўся. Прытым яшчэ на нейкіх спрыяльных умовах, хоць, і так, як на фінансавыя магчымасці нашага тэатра, гэтыя ўмовы з'яўляюцца смяротнымі. На жаль, службовыя асобы, ад якіх мы фінансава залежым («Trzyrzecze» ўтрымліваецца за кошт субсідый, у асноўным беластоцкага магістрата — М. Х.) лічаць, што спектакль можна зрабіць за пяць злотых.

**— Дзякую Вам за размову.**

**Гутарыў Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Польская прэм'ера «Трусоў» у перакладзе Агнешкі Любаміры Пятроўскай у тэатры «Trzyrzecze» запланавана на 26 верасня ў рамках падзеі «Усход культуры» — цыкла мерапрыемстваў у Беластоку, Любліне і Жэшаве, які ўключае культурныя мерапрыемствы з краін-удзельніц праграмы «Усходняе партнёрства», такім чынам і з Беларусі.

# — Цёця Жэня —



Гэтую жанчыну ведаюць у Ліпску мабыць усе. Кожную нядзельку можна яе сустрэць у самым сэрцы маленькага, памежнага мястэчка. Пяцьдзесят чатыры гады чуць свет пры ўваходзе на касцёльны дзядзінец раскладае яна маленькі столік, накрыты беленькім абрусам. З сабой прыносіць элегантны, старамодны чамадан карычневага колеру. Многім пакаленням ліпшчан падобны на музейны экспанат чамадан асацыюецца толькі з адным — з незабыўнымі ледзянцамі цёці Жэні Маліноўскай.

На белым як снег палатне паводле формы і колеру займаюць свае месца чырвонагаловыя грыбочкі, чорныя мачкі, какававыя і ружовыя свердзелы, чырвоныя петушкі і зялёныя лісточкі. Большасць з іх замацаваная на асабіста выразаных жанчынай тоненькіх прутках. Ахвотныя пакаштаваць легендарныя ласункі становяцца ў чаргу да пачатку імшы і пасля яе заканчэння. Без адказу застанецца пытанне ці ўвесь Ліпск сыходзіцца сюды для малітвы, ці можа дзеля незвычайных ласункаў. Так ці сяк, здаецца, што яе штотыднёвая прысутнасць прыцягвае ў касцёл не толькі дарослых, але перадусім моладзь і дзяцей. Такі смакавіты ледзянец гэта ж найлепшая ўзнагарода маладому чалавеку за яго стойкасць у амаль гадзіннай малітве.

— Маму, хачу ледзянца, — просіць маленькі хлопчык у калясцы.

— Якога? — цікавіцца цёця Жэня.

— Сіняга.

Хаця ў гэтым колеры якраз нічога на абруску не было, яна здагадалася, што хлопчыку напэўна спадабаецца зялёны лісточак. Так і было. Уручаны ласунак зараз жа папаў у малы, шчаслівы роцік. Цёціны ледзянцы, мабыць, найсмачнейшыя, але і найтаннейшыя ў свеце. Ці сёння дзе-небудзь яшчэ можна нешта купіць за дваццаць грошаў, а да таго атрымаць ласкавы позірк і ўсмешку?

Смачныя ласункі-падарункі паўстаюць на Калоніі Пакосьна, на якой ад сямідзесяці васьмі гадоў пражывае спадарыня Жэня. Яе вёска ляжыць у палове дарогі паміж Сухаволяй і Гродзіскам. Калісь, як яшчэ сілы былі, разам з мужам адпраўляліся яны на матацыкле, каб парадаваць мачкамі і грыбочкамі ўдзельнікаў адпустаў у Рыгалаўцы, на могілках у Есянове ці Красным Бары. Цяпер застаўся толькі Ліпск. «На шчасце ксёндз мяне не праганяе», — кажа цёця Жэня. «А няхай бы паспрабаваў», — адказвае, чакаючы на ласунак, малады чалавек. Вікары асабліва разлюбаваўся у мятных падушачках.

— Заўсёды трымаю яму падрыхтаваны мяшочак, — гаворыць з усмешкай цёця Жэня.

Рабіць цукровыя цуды навучылася яна ад сваёй цёці, якая таксама аб'язджала з салодкім чамаданчыкам навакольныя адпусты. Дзеці спадарыні Жэні, на жаль, не зацікаўлены працягам сямейнай традыцыі. Яны раз'ехаліся па свеце ў пошуках лепшага жыцця. Адна дачка, што жыве ў Беластоку, ведае рэцэпты і спосаб падрыхтоўкі ласункаў. Добра ёй гэта атрымліваецца. Раз нават ездзіла са сваімі вырабамі на одпуст. Раскупілі ўміг.

— Аднойчы падышоў да мяне малады хлопец, — працягвае свой аповед цёця Жэня. — Ён тут акуляры прадаваў. Глядзіць і глядзіць на ледзянцы, вачэй не зводзіць. Я да яго: «Дзіця, ты, мабыць, хочаш навучыцца іх рабіць». «Ой, пані, праўда, вельмі хацеў бы». «Як я табе скажу, то і так нічога з таго не зразумееш. Мусіш пабачыць як гэта робіцца». Хлопец забраў цёцю Жэню да сваёй хаты на начлег, з ахвотай забраўся за справу і навучыўся. Ён абавязаўся пераняць месца настаўніцы, калі той ужо не стане. Пакуль малады хлопец спявае у касцёльным хоры і блізка сябруе з дачкой мясцовага арганіста.

Спадарыня Жэня не засакрэчвае сваіх рэцэптур. Кожны можа пайсці яе следам. Апрача жадання патрэбныя яшчэ кілаграм цукру, лыжка воцату і паўлітра вады. Гэта ўсё трэба заварыць, не мяшаючы. Пасля выкласці на памазаную алеем бляшку і выстудзіць халоднай вадой. Рознакаляровыя спецыяльныя фарбкі, якія калісь можна было набыць у драгерыі ў Саколцы, прывозяць Жэніны дзеці ажно з далёкага Лондана. Праўдападобна можна іх дастаць і ў Варшаве, але хто цяпер туды ездзіць, хіба што ў тамтэйшы аэрапорт.

Кампанія цёці Жэні салодкая як яе ледзянцы. Мабыць, ліпшчане нечым заслужылі на такое асаблівае вылучэнне. Хто іх ведае, той і знае. У народзе кажуць, што свой заўсёды свайго знойдзе.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

## Брэсцкая крэпасць у фатаграфіі

У Доме творчай працы „Рэймантаўка" ў Хлевісках каля Седльцаў адкрылася фатаграфічная выстава „Брэсцкая крэпасць у міжваенны перыяд — 1921-1939 гады". Прэзентаваныя на выставе матэрыялы паходзяць з фондаў Мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой» і А. Вярбіцкага з Нямеччыны. На 54 фатаграфіях прадстаўлена штодзённае жыццё салдат і ўрачыстасці з удзелам найважнейшых дзяржаўных чыноў. Адкрыццё выставы стала вялікай культурнай падзеяй. Удзельнічала ў ёй больш за сто чалавек, у тым ліку моладзь з Нямеччыны і Францыі. Выставу ўдастоілі, м.інш. дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Эдуард Швайко, консул Консульства РБ у Белай-Падляшскай Аляксандр Лазіцкі, стараста Сядлецкага павета Зыгмунт Велягурскі, старшыня Рады Сядлецкага павета Генрык Брадоўскі, намеснік старшыні Таварыства „Польшча-Усход" Ежы Смалінскі, былая консул РП у Брэсце Аліна Чарняўская. Сабраныя выслухалі даклад д-ра Рафала Дмоўскага з Прыродазнаўча-гуманітарнага ўніверсітэта ў Седльцах, які прадставіў гісторыю Брэсцкай крэпасці.



Галоўны рэдактар „Сядлецкага тыднёвіка" Кшыштаф Гарасімюк і заадно ініцыятар прывязення выставы ў Хлевіска, аб якой даведаўся ад галоўнага рэдактара „Вячэрняга Брэста" Уладзіміра Шпарло, патлумачыў „Ніве":

— У многіх жыхароў нашага рэгіёна моцныя сувязі з Брэстам. Бацькі або дзяды служылі там у войску, вучыліся або працавалі. Я палічыў, што выстава па сентыментальных, сямейных або гістарычных прычынах можа зацікавіць нашых чытачоў.

Гэтая ініцыятыва — добры крок у напрамку набліжэння паміж суседзямі, лепшага знаёмства з гісторыяй, багатай на складаныя і важныя падзеі. Выклікаюць яны і надалей вялікае зацікаўленне як навукоўцаў, так і грамадства па абодвух баках Буга. „Хай Брэсцкая крэпасць стане ў будучым памостам, які злучае абодва бакі", — прызнала Аліна Чарняўская. Эдуард Швайко ў сваю чаргу адзначыў, што Брэст злучае гісторыю многіх народаў. Там адбываліся падзеі, якія мелі ўплыў на лёс Еўропы. У наш час крэпасць — адзін з важнейшых турыстычных аб'ектаў Беларусі. Даўней, як важны бастыён, мела яна абараняць, сёння аб'ядноўвае аматараў гісторыі і з'яўляецца важным сімвалам будучыні.



Дырэктар Дома творчай працы „Рэймантаўка" Марк Блашчык паведаміў „Ніве", што выстава будзе працаваць да канца жніўня. Пазней плануецца паказванне яе ў іншых мясцовасцях рэгіёна.

Адам БОБРЫК



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Люблю простых людзей з вёскі

## Інтэрв'ю з **Аліцыяй Петручук**, рэпартажысткай Радыё Беласток, якая была госцем XXVII Сустрэч „Зоркі".



Фота Міры Лукшы

**„Людзі Тамары Саланевіч": — *Калі Вы пачалі працаваць на Радыё Беласток?***

**Аліцыя Петручук:** — На Радыё Беласток я працую з 1992 года.

**ЛТС: — *Што прыцягнула Вас да працы на радыё?***

**АП:** — Гэта атрымалася выпадкова. Я па прафесіі юрыст. Калі я прыехала з Варшавы ў Гайнаўку, не было такой работы. Я пачала працаваць у Гайнаўскім доме культуры і тады ўбачыла аб'яву. Радыё Беласток шукала журналістаў. Я не думала, што мне пашанцуе. Але мяне прынялі, працую там па сённяшні дзень.

**ЛТС: — *Адкуль Вашы бацькі? Ці паходжанне мела ўплыў на Вашыя зацікаўленні?***

**АП:** — Мае бацькі родам з наваколля Гайнаўкі. Яны — гуманісты, працавалі настаўнікамі ў Гайнаўскім беларускім ліцэі. Мама выкладала гісторыю, бацька — польскую мову. Я працую на польскай і беларускай мовах. У хаце мы размаўлялі па-польску, таму па-беларуску мне лягчэй гаварыць з чужымі людзьмі. Адкуль зацікаўленне журналістыкай? Думаю, што гэта прыйшло ўжо ў ліцэі. Усе тады хацелі быць гуманістамі. Мы чыталі забароненыя кніжкі, выдадзеныя ў падполлі. Гэта быў такі „шпан", але адначасова захапленне літаратурай.

**ЛТС: — *Якія тэмы Вас цікавяць у рэпартажы?***

**АП:** — Такія тэмы, якія датычаць людзей і іх праблем. Вельмі важна, калі людзі хочуць расказаць пра свае справы.

**ЛТС: — *А якія людзі былі сярод Вашых герояў?***

**АП:** — Розныя. Мне вельмі падабаўся рэпартаж з вёскі Войшкі. У гэтай вёсцы жывуць старыя людзі. Але там вельмі прыгожа, калярова, усё задбанае. Пытаю: чаму яны так стараюцца? А яны: мы памрэм, а гэта ўсё хай астанецца нашым дзецям...

Часта героямі маіх рэпартажаў з'яўляюцца простыя людзі з вёскі. Для мяне яны вельмі цікавыя. Так было, калі я сустрэла жанчыну з вёскі Філіпова. Яна закончыла мастацкую школу, а цяпер гадуе кароў. Пытаю: а чаму так склалася? А яна кажа: пабаялася ацэнак і крытыкі. Зараз яе творы, мальберт і фарбы стаяць пад замком у майстэрні, чакаюць яе.

**ЛТС: — *Вашыя рэпартажы атрымалі міжнародныя ўзнагароды. Якімі даражыце найбольш?***

**АП:** — Усе ўзнагароды для мяне важныя. Самая каштоўная — іспанская „Прэміос Ондас" (галоўная прэмія Міжнароднага фестывалю радыё- і тэлежурналісцкай творчасці ў Барселоне — рэд.) з 1998 года за рэпартаж „Цэлы ваш". Таксама я атрымала ўзнагароду імя Вітальда Задроўскага за рэпартаж „Як гэтая рака". Была таксама ўзнагарода ў агульнапольскім конкурсе „Польшча і свет" .

**ЛТС: — *Ваш найважнейшы рэпартаж — пра прыезд прэзідэнта ў вёску Махнатае. Скажыце, як гэта атрымалася?***

**АП:** — Праз вёску Махнатае меў праязджаць прэзідэнт Аляксандр Кваснеўскі і людзі вельмі старанна рыхтаваліся. Прэзідэнт быў там 15 хвілін. У час яго візіту падышла жанчына і спытала прэзідэнта чаму ён нічога не робіць. Калі мы з Агнешкай Чаркоўскай зрабілі рэпартаж, людзі пачаткова былі абураны. Яны гаварылі, што мы паказваем Беласточчыну як бедную і адсталую ў развіцці правінцыю.

**ЛТС: — *Ці пасля поспеху ў Іспаніі Вас таксама крытыкавалі?***

**АП:** — Гэтая ўзнагарода памяняла ўсё. Тыя людзі, што нас крытыкавалі, вельмі цешыліся і ганарыліся, што сталі героямі такога важнага дакумента.

**ЛТС: — *Чым адрозніваецца рэпартаж ад іншых журналісцкіх жанраў? Якія рысы і ўмеласці павінны характарызаваць радыёжурналіста?***

**АП:** — Радыёжурналіст працуе голасам. Слухачы павінны зацікавіцца яго моўнымі здольнасцямі, таму трэба гаварыць выразна. Трэба ўмець слухаць людзей, быць цярплівым і спакойным.

**ЛТС: — *Ці маеце планы на наступныя рэпартажы?***

**АП:** — Планы ёсць заўсёды. Калі зробіш адно, хочацца працаваць далей.

**ЛТС: — *Вы часта працуеце ў дуэце. Вам падабаецца такая праца?***

**АП:** — Праца ў дуэце гэта праверка самога сябе. Многія журналісты любяць працаваць сола. Я аднак больш люблю працаваць у дуэце.

**ЛТС: — *Чаму Вы так палюбілі брытанскіх коцікаў?***

**АП:** — Яны вельмі разумныя, у іх круглыя галоўкі і цудоўная поўсць. Яны выглядаюць быццам плюшавыя мядзведзікі.

**ЛТС: — *Ёсць у Вас любімыя гадаванцы?***

**АП:** — Маім любімым гадаванцам з'яўляецца кот Рысек. Ім трэба апекавацца. Ён вельмі загубленны, такая сіротка. Маці заўсёды найбольш любіць дзіця, якім трэба найбольш займацца.

**ЛТС: — *Дзякуем за размову!***

**АП:** — Дзякую таксама!

*Інтэрв'ю апрацавалі **Паўліна Ваўранюк** і **Аляксандра Зінкевіч**.*

# Папоўка

Папоўка — вёска, якая калісь існавала непадалёк Пяшчанік. У час вайны людзі з Папоўкі дапамагалі партызанам. Нямецкія жандары з Гарадка даведаліся пра гэта. Яны спалілі вёску і расстралялі людзей. Загінула там 36 жыхароў, у тым ліку 16 дзяцей.

Пра гэтае сумнае здарэнне я напісала верш.

* * *

*Была вёсачка —*
*Папоўка.*
*Добрыя людзі там жылі,*
*Гасцінай частавалі.*
*Аж прыйшоў час —*
*Час вайны.*
*Лясы партызанаў*
*Скрылі.*
*Некаторым месца не хапіла.*
*А Папоўка, добрая для ўсіх,*
*Дапамагла ім.*
*Пасля за іншых людзей*
*Жыццё аддалі.*
*Загінуў папоўскі народ —*
*Больш за трыццаць людзей:*
*У тым ліку шаснаццаць*
*Дзяцей!*

**Патрыцыя Карлаў** — *„Людзі Тамары Саланевіч” — Гімназія імя Роду Хадкевічаў у Гарадку.*



Фота Ганны Кандрацюк

# Фільмавы „одпуст”

У „Нараўчанскай баладзе” Тамара Саланевіч паказала як калісь выглядаў *одпуст*. У фільме мы распазналі царкву ў Семяноўцы. Тут адзначаюць два парафіяльныя фэсты: на Юр'я (6 мая) і на Панцеляймона (9 жніўня). У свята людзі не толькі маліліся і спраўлялі абрады. Пасля службы яны добра гасцявалі і ладзілі танцы. У такі дзень хлопцы выгледжвалі сабе дзяўчат, а пасля да іх пасылалі сватоў.

У час вандроўкі па месцах Тамары Саланевіч мы завіталі ў Семяноўку. На месцы пабачылі тую самую царкву, што ў фільме. Тут яшчэ служыць той самы бацюшка Мікалай Шэбелян. Чаму якраз рэжысёрка ўпадабала сабе царкву ў Семяноўцы? Тут утульна і многа народных абрадаў. Адзін з іх — як людзі пераходзяць пад іконай, якую нясуць дзяўчаты — паказаны ў „Нараўчанскай баладзе”. У царкве многа вышываных ручнікоў і настольніц. Таксама героі фільма апранутыя ў святочныя вышыванкі і каляровыя строі.

***„Галерэя Тамары”***

# Вершы Віктара Шведа

## Тэлефонная размова

Азвалася дама
Абутковай крамы:
Пачула яна словы —
Нумар памылковы.
Благая гэта справа,
Размоўца ласкавы,
Абменім з ахвотай
Нумар вашых ботаў.

## На вуліцы я не жыву

— Чаму ты плачаш, галубок,
Слязой залўся?
— Прыплёўся я сюды здалёк
І заблудзіўся.
— Як вуліцу тваю завуць,
Дзе бацька, маці?
— На вуліцы я не жыву
Ды толькі ў хаце.

# Талент Тамары Саланевіч

Сустрэча з галоўным рэдактарам „Нівы” Яўгенам Вапам дазволіла нам шырэй зірнуць на фільмы і асобу Тамары Саланевіч. Наш госць расказаў пра фільм „Ці чуеш як плача зямля”. Ён адзначыў, што трэба мець вялікі талент рэжысёра, каб так прымусіць акцёраў да добрага выступлення перад камерай. А гэтую справу Тамара Саланевіч умела як ніхто...

„А памятаеце такую сцэну, дзе людзі пакідаюць свой дом і ўсе плачуць?” — спытаў спадар Вапа.

Мова пра сцэну развітання з родным домам у Старой Луцэ. Яе ігралі простыя вяскоўцы, якія перажылі падобны досвед перасялення. І яны сыгралі так, што пасля плакалі не толькі ўсе ў фільме, але і многія гледачы, калі сядзелі ў сваіх фатэлях перад тэлевізарамі. Наш госць звярнуў увагу на цяжкі і неспакойны лёс беларусаў у міжваенны час. Менавіта ў тыя гады адбываецца дзея фільма „Нараўчанская балада”. Пасля мы размаўлялі аб працы журналіста ў беларускіх медыях.

***„Галерэя Тамары”***



Фота Ганны Кандрацюк

## *На канікулы ў горы!*

У Польшчы самыя высокія горы — Татры. Варта туды паехаць. Самая высокая гара ў Татрах — Рысы. Турысты заўсёды хочуць пабачыць возера Марское вока. Да яго вядзе прыгожы шлях.

Іншыя горы ў Польшчы — гэта Судэты. Іх пік — Снежка.

Самыя нізкія горы — Свентакшыскія. Найвышэйшая гара — Лысіца. „Лысая гара” мае чарадзейскую славу.

Кожны павінен паехаць у час канікулаў у горы. Такія месцы мяняюць нашы думкі і інакш глядзім на свае даліны.

***Аляксандра Зінкевіч** — „Людзі Тамары Саланевіч” — КШ з ДНБМ імя Ярaслава Касцыцэвіча ў Бельску-Падляшскім*

# Польска-беларуская крыжаванка № 33

**Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў: Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на крыжаванку № 29:**

**Шпінат, віза, кот, месяц, вянок, Ян, так, мерка, рака. Шакалад, мята, сена, сок, ваяк, Лі, на, размова.**

**У гэты раз не было правільных адказаў.**

Duch
Marynarz
Parada
Data
Gaza
Damka
Dar
Pokój
Marzenie
Lekarz
Mapa
Literka
Tłuma-czenie
Jar
Pokrzywa
Ty

**Пазваніў трывожна тэлефон адной маёй знаёмай: — Прыязджай у Н., ратуй Веру. Бяду мае дома дый годзе. Былы мужык п'е, буяніць, крыўдзіць яе і дарослага ўжо сына.**



# Вера ды Валера

„Ну, людзі яшчэ вераць у моц журналістыкі!" — падумалася мне, якой за трыццаць гадоў работы ў друку траплялся і такія інтэрвенцыі. Я хутка сабралася ў аўтобус і крыху больш за гадзіну апынулася ў мястэчку Н. Ужо перад брамкай я стала з разяўленым ротам. Неспадзявана для мяне перада мною высіўся дагледжаны мураваны дом, можна сказаць, што двухпавярховы — з высокім падстрэшкам. Не выглядала гэта на сядзібу „дысфункцыйнага" сямейства.

Праўда, ужо ў сярэдзіне я шарахнулася ад слядоў працяглага пахмелля і другадзённых яго вынікаў — мінуўшы замызганае поле бою і пакой, адкуль даходзіў магутны храп, я прасунулася ў пакой гаспадыні, гэтак званую вялікую хату, таксама са слядамі дзейнасці нейкага багатыра. Найбольш кінулася ў вочы столь з вырванай жырандоллю. Спадарыня Вера дрыжачай рукой салодзіць гарбату з цукарніцы з крышынамі тынку.

— Валера п'е ад пачатку, недзе з 18 года жыцця, але апошнія гады ўжо без перапынку. Я ўвесь дзень на рабоце, і ў Г. езджу, бо там дом маіх бацькоў. Маю куды ўцячы. Але там патрэбны вялікі рамонт, ад фундамента. Разваліна, але плаціць трэба за электраток, ваду... Але як там жыць адной. Сына не магу забраць, бо тут яго дом. А гэты алкаголік нас даканае!

— Многія жанчыны проста ўцякаюць ад пекла, пакідаючы свае старанне, дабытак, беручы дзяцей з адным вузлком...

— Відаць я пайшла не па іхнім сцэнарыі.

Па чым? Валеравага і яго дваюраднай сястры.

Дом спадарства В. вядомы ўсім, каму ў Н. трэба „рускія" цыгарэты.

Усюды сястрычка дайшла. Але не дайшла да мытнай палаты, і зрабілі налёт на Валераў дабытак. А той прызнаўся, што „псіхічна хворы", значыць, нельга яго караць.

— Учора тут усё пераварочвалі. Паліцыя з мытнікамі наляцелі, бо Валера прадае „рускія" цыгарэты, і за гэта п'е. Усе ведаюць, у каго цыгарэты купіць можна. Знайшлі, пакінулі дзве пачкі, бо інакай будзе шукаць, ганяць. Дык калі ён несвядомы, няхай яго пакладуць у бальніцу, а калі свядомы — няхай сядзіць у турме. Перад людзьмі такі „гжэчны". У аўтобусе месца ўступіць. Хваліцца, што поні гадуе, пільнуе. А калі ён нап'ецца, хто таго поні глядзіць? Купіў поні, каб вазіць турыстаў. А дзе тыя турысты! А поні хоча есці, і загатовіць яму трэба і на зіму. З п'яніцамі Валера трымаецца. Адкуль яны грошы на гарэлку бяруць? На „крэску" ім даюць. Зачапаюць майго сына. Ходзяць вечарамі хуліганы, мой сын не хоча з імі мець дачынення.

Сын спадарства Веры і Валерыя — дарослы, прыстойны хлопец, інвалід. Дом дванаццаць гадоў таму спадар Валера ахвяраваў сыну ў пажыццёвае карыстанне, пры дажыванні ў ім бацькоў. У той час Валера быў ужо пенсіянерам па алкагалізме. Значыць, ужо быў несвядомы, і можна гэтую справу адкруніць. Гэтак раіць яму ягоная дваюрадная сястра, пані Б., якая маецца за вялікую шышку ў мястэчку. Цяпер Валера хоча адабраць ахвяраванне, а бацькоўскі дом перапісаць на сястру. Што бышцам бы яго сын, якому перапісаў дом за „дажывоцце", няўдзячны — не дае яму грошай і ім не апякуецца.

— А Валера з хаты ўсё вынясе, а нічога не дае — а ж памыць, накарміць трэба. Купіў бы які парашок для сціркі. Адно хату зарыгае, загадзіць, затопча. Урываецца ў наш пакой, б'е мэблю, жырандолі, — здушаным голасам, азіраючыся на дзверы, кажа Вера. — „Трэба купіць парашку!" — „А ты не можаш?" — „Мала грошай маю пенсіі". Мусіла я дванаццаць гадоў апекавацца бацькамі першай інваліднай групы, працу мусіла кінуць. А пасля не было як дарабіць да большых гадоў працы. І таму пенсія ў мяне малая. А і ў Г. мушу падаткі аплаціць, за ваду, святло, і тут — таксама. Наш сын таксама мае сацыяльную пенсію, толькі 500 злотых. Хварэе неўрозам. А то гэтага Валеру-алкаголіка лячыць трэба. А дваюрадная сястра Б. і ў судах, і ў паліцы бароніць, каб яго не забралі. А з нас — жонкі і сына, дурняў робіць.

Праўда, год таму судовым парадкам зрабілі Валеру недзеяздольным.

— На судзе былі і псіхолаг, і кансультанты. Сястра сказала, што будзе яго юрыдычным апекуном, бо я ўжо была разведзена, а наш сын хворы. Б. паўтара месяца паапекавалася ім, і кінула. Напісала ў суд, што адмаўляецца ад апекі. Павезла яго да лекаркі ў Харошчу, якая напісала, што ён ужо дзеяздольны, паводзіць сябе нармальна. Але Б. брала ў свае рукі тыя 500 злотых „засілку", які Валера атрымаў як хворы-алкаголік. Яму не аддавала. І Валера за тыя цыгарэты жыў. Адхілілі недзеяздольнасць, а ён далей буяніць. Б. пастаралася. Яна мае ў сям'і суддзяў, адвакатаў, дык параілі ёй што зрабіць, каб забраць гэты дом. Бо гэты дом — Валеравых бацькоў, ейных дзядзькоў. А Б. заўзятая якая! Усё мусіць быць па-ейнаму. Сваю дачку развяла, брата. Заела мужа. Мы прыехалі на справу ў суд, а яна на майго сына: „Ты майго мужа адзенне ўкраў!". Нашто яму такое — у шафе сваіх касцюмаў рад вісіць!

У пакоі чысціня, зусім не так як на калідоры і ў лазеньцы.

— Не мыю яму, — злуецца Вера на свайго былога мужа. — Учора сілай сцягнула з яго кашулю, бо ўжо смярдзела. Не пачуваецца да таго, што трэба дахаты штосьці купіць — ані што з една, ані мыла якога. Будзе мець 5 ці 10 злотых — то на гарэлачку. Ідзе да людзей — з гарэлкай і грашыма, яшчэ бярэ цыгарэты і запальнічку, а мне нават два злоты не дасць, каб цукар ці воцат купіць. А за людзей — жыццё б аддаў. Знайшоў нейкія дзеўкі-варшавянкі, што да іх усё мястэчка ходзіць. Хацеў з адною жыць, але да яе нейкі ўдавец прыклеіўся, дык яна выбрала таго багацейшага. Валера біцца хацеў. Калі ўбачыў, што не адаб'е старой, дык узяўся за дачку. Тая дачка мае чатырох „мужоў", „кішанкуе" добра. Валера прыходзіць пабіты, бо тае чарнявай бабы дарослы сын даў яму ў каплех. Выберуць грошы, і вяртаецца паабіваны. „Ты выбрала ў мяне грошы!" — кідаецца на мяне. — „А ці я з табою там была?" А то сядзіць у той кампаніі да раніцы, пакуль яго з грошай не абяруць.

Ці не бачыць паводзін Валеры паліцыя з Н.?

— Прыедзе паліцыя, ён сядзіць спакойна. Паедуць, і ён зноў буяніць. Мы напісалі ў гміну, каб яго забралі лячыць. І напісалі, і хадзілі, і прасілі. Тады тая яго сваячка сведчыць, што ён не п'е, і сведкаў падсоўвае, што аб яго не дбаем, а ён жа ж хворы. Калі пасля перапою кепска сябе адчувае, дык кажа, што ў яго „грып". Енчыць, што ўсё яму баліць — і спіна, і ногі. А ўстане, дык і пайшоў.

Вера мяркуе, што Б. хоча, каб Валера апісаў хату на сястру, і што яна будзе ім апекавацца. А сына і былую жонку выкінуць з дому.

— Ён для дому ўсё робіць, каб не даць, а для людзей усё павыносіць. Ён ці цвярозы, ці п'яны, мае першую інвалідную групу — ён хворы — да 2015 года. Алкагалічная залежнасць плюс расстройства асобы.

І па людзях Вера начавала, і што не толькі! Каб толькі ўтрымаць сына, каб ён тут застаўся. Сын хоча жыць тут, у дзедавым доме. Куды яму падзецца?

Валера ламочацца ў пярэдняй, грукоча ў ваннай. Ідзе на падворак.

— Накасіў травы для поні? А рукі памыў? Ужо пару дзён ты не мыўся! — папракае яго Вера.

Валера сціхае, азіраецца, што чужы чалавек дома, ідзе ў свой салон.

— Калі ўжо суд мае быць, Валера не п'е, сястра водзіць яго па сведках, каб паказаць, што брат спакойны і непітушчы. Чакае, што я ўцяку і забяру сына, а тады яна запануе над гэтым домам. Усё парабіла, каб яго не дапускалі да лячэння. Павядомлю паліцыю, што Валера разбіваецца па хаце — кажуць, што машыны не маюць. А калі прыедуць на інтэрвенцыю, ён сядзіць спакойна. Аднойчы ноччу выйшлі мы з хаты, на паліцыю прасіць дапамогі. Месяц свяціў, халаднавата было. Забягаем, а ўчастковы на нас накінуўся: „А што вы з мужам выпраўляеце?! Гэта няпраўда, што вы кажаце! Дарэчы, няма самахода, каб да вас ехаць!". А перад паліцыяй стаяць два самаходы... І гэта Б. намовіла Валеру, каб у суд падаў, што сын не аказвае яму дапамогі, не корміць яго і не дбае, значыць, не выконвае свайго абавязку і трэба адмовіцца ад ахвяравання. Свайго адзінага сына пазбавіць дому? Такі бацька? У школу зімою сын у кедах хадзіў, бо на гарэлку мела хапіць. І цяпер ні ўдзень, ні ўночы няма адпачынку. Людзі пыталіся: як ты столькі гадоў з ім пражыла? Цяпер Валера ціхенька ляжыць, бо чужы ў хаце. А толькі выйдзеце — пачнецца. У шафцы стаіць восем бутэлек з-пад гарэлкі. За два дні! „А ці маеце вы сведкаў?" — пытаецца паліцыянт. З інтэрвенцыі таксама не хацелі ўзяць яго на лячэнне, сказалі, што ён дарослы чалавек і павінен падпісаць згоду, бо пагрозы цяпер не стварае — сядзіць спакойна. Сведкі! Ніхто не хоча ўмешвацца ў чужыя справы. Я давала паказанні ў судзе, і мая сястра, але суд не прыняў пад увагу нашых доказаў, але ягонай сястры — так. А мы ж трыццаць гадоў былі ў сужонстве, маёнтку разам дарабляліся. Ды як я маю забіраць свае рэчы, калі тут сын жыве. Ці хто на ўсё фактуры браў, калі што купляў? Пані Б. хацела, каб мяне выкінулі і з гэтай хаты, але ж эксмісіі не могуць зрабіць, а я ж хворага сына не пакіну.

Праз тыдзень на імпрэзе ў мястэчку падыходжу да сястры спадара Валеры, якая бы тая пава прахаджваецца навідавоку ўсім гледачам.

— Я маці Б.! — заяўляе на ўступе.

І ўжо вядома, хто „жондзіць" у Н.

**Міра ЛУКША**

*Імёны і назвы зменены.*
*Падабенства падзей выпадковае.*

# У берасцейскім кругаглядзе

**У Нэплі звабіў мяне партал тамашняй Тарэспальскай гміны, абяцаючы знаёмства з помнікамі мінулага. Гэтае мінулае адклікалася да прабывання ў Нэплях найбольш магутнага расійскага імператара Аляксандра I, які там бываў у пік тае магутнасці...**



Танк каля Нэпляў

Партал: „W XVIII-XIX wieku właściciele Nepli - ród Niemcewiczów zamieszkiwał w „domu na wzgórku", o którym tak pisał Julian Ursyn Niemcewicz w swoich pamiętnikach:

„Neple, mieszkanie Ignacego Niemcewicza, w najpiękniejszym są położeniu. Dom na wzgórku; w przepaści pod nim płynie rzeka wężykiem; za nią odkrywa oko w niezmiernej przestrzeni rozwinięte pasmami pola, smugi, włości i gaje; wieże miasta Brześcia, stołecznego województwa nago uwieńczają horyzont". Na początku XIX w. nowy właściciel Nepli, Kalikst Mierzejewski, człowiek wielce majętny, właściciel ogromnych posiadłości na Polesiu, były marszałek szlachty grodzieńskiej, wybudował na miejscu domu Niemcewiczów klasycystyczny pałac wg projektu modnego wówczas architekta Franciszka Jaszczołda. Obok pałacu stanął tzw. Biwak - specjalny pawilon mieszkalny dla cara Aleksandra I, który w latach 1818-25 przybywał do Nepli, a konkretnie do żony Kaliksta - pięknej Julii z Orzeszków. Owocem romansu cara z żoną właściciela Nepli miał być syn Mierzejewskich Juliusz August, urodzony w 1817 r., którego car Aleksander I został ojcem chrzestnym. W 1828 r. Juliusz August zmarł wskutek nieszczęśliwego wypadku podczas konnej przejażdżki (w efekcie złamania nogi wywiązała się gangrena). Rodzice ufundowali synowi specjalną kaplicę, w której później pochowano też ojca Kaliksta Mierzejewskiego".

З аўтобуснага прыпынку нічога асаблівага не відаць. Заходжу ў краму побач, пытаю пра касцёл і палацавы комплекс. Касцёл тут жа, прыхаваны ад вуліцы за іншымі будынкамі, а ад палаца нямнога асталося. Партал: „Kościół parafialny pw. Podwyższenia Krzyża Św., murowany, wzniesiony w 1769 roku w stylu eklektycznym jako cerkiew unicka (pw. św. Ducha), ufundowany przez Franciszka Ursyna Niemcewicza i jego żonę Annę z Korotyńskich. W 1873 r. zamieniony przez rząd carski na cerkiew prawosławną, 1 czerwca 1919 r. rekoncyliowany na świątynię rzymskokatolicką".

Перад касцёлам валун з мемарыяльнай табліцай хрэстаматыйнаму пісьменніку Юльяну Урсыну Нямцэвічу, якая акцэнтуе ягоны ўдзел у касцюшкаўскім паўстанні 1794 года. У касцёле мемарыяльная дошка „светлай памяці геройскім уніятам з Крычава і пазнейшым абаронцам святой веры", аднак падрабязнасцей пра тое геройства няма. Бліжэй вуліцы крыж-помнік пабыўкі ў Нэплях Польскага войска з маршалкам Юзафам Пілсудскім.

Пераходжу на левы бераг Кшны, дзе рэшткі палацавага ансамбля. *Слоўнік Каралеўства Польскага* з 1880 года: „Dawniejszy pałac, z wieloma pamiątkami, zgorzał w r. 1854". Партал: „Spalony obiekt rozbierano systematycznie w latach 1937-39 i po wojnie - do lat sześćdziesiątych". Аднак крыху даўніны захавалася.

Іду абсаджанай грабамі вулачкай у глыб комплексу, даходжу да domu na wzgórku. Сабака выклікае гаспадыню; пытаю яе пра „Бівак" і пра капліцу. Яна шчыра інфармуе мяне пра тыя аб'екты, аднак, апынуўшыся ў тапаграфічнай рэальнасці, ніяк не магу іх знайсці. Вяртаюся ў краму на ўзбярэжжы парку. Прадавачка інфармуе мяне пра сакрэтны ўваход у парк, бо ж галоўная брама туды мае быць закрыта. Аднак на браме няма замка і яна без клопату адкрываецца. Зараз за брамай стэндавая шыльда Карытас Сядлецкай дыяцэзіі...

Гмінны партал інфармуе пра лёс комплексу толькі do lat sześćdziesiątych. Пра далейшы яго лёс няцяжка здагадацца, мяркуючы пра процьму павільёнікаў тыповых для нашых польскіх ośrodków wczasowych. Менавіта такі асяродак у эпоху „народнай улады" быў пабудаваны на месцы былога палацавага комплексу. Яго ўладальнікам было мабыць нейкае прадпрыемства, якое ў выніку эканамічнай трансфармацыі спыніла сваё існаванне, а ягоны ośrodek wczasowy быў аддадзены Касцёлу. А такі асяродак быў прынцыпова расаднікам спакуслівай грахоўнасці, з якой нават Касцёлу, здаецца, не ўдалося справіцца. І зараз той цэлы парк зарастае не прадбачванай яму прыродай, пад якой складана ўжо разгледзець вымашчаныя бетоннымі формамі дарожкі. У гэтай архітэктурна-прыроднай катавасіі ўдалося мне знайсці згаданую парталам капліцу; „Бівак" пакінуў я больш дапытлівым валацугам, а сам рашыў павалачыцца па іншых слядах слаўнага расійскага імператара Аляксандра I.


S.†P.
JULIAN URSYN NIEMCEWICZ
POETA, PISARZ I PATRIOTA POLSKI
URODZIŁ SIĘ W 1758 r. W SKOKACH
KOŁO WOLCZYNA N/BUGIEM
(DOBRA PONIATOWSKICH)
ZMARŁ W 1841 r. W PARYŻU
GENERAŁ ZIEM PODOLSKICH, ADIUTANT
TADEUSZA KOŚCIUSZKI
W BITWIE Z WOJSKAMI ROSYJSKIMI
POD MACIEJOWICAMI W 1794 r.
RODZINNIE ZWIĄZANY Z NEPLAMI

Мемарыял Нямцэвічу

Цар Аляксандр I быў унукам славутай царыцы Кацярыны, славутай не толькі ўладарнымі здольнасцямі, але мо нават больш сваімі неафіцыйнымі дасягненнямі. Яе ўнук таксама ад яе нешта ўнаследаваў: у яго было больш дзесятка пазашлюбных дзяцей; адным з іх мог быць згаданы Юльюш Аўгуст. Усе ягоныя дзеці аказаліся, аднак, нядоўгавечнымі, што магло пакінуць сур'ёзны адбітак у ягонай душы. Адбітак на ягонай душы маглі таксама пакінуць шматлікія ахвяры войнаў з Напалеонам Банапартам, але лічыцца, што найбольшы адбітак астаўся ад удзелу ў забойстве папярэдняга цара Паўла I — ягонага бацькі... Ранейшы ліберал стаў пастухова захапляцца Бібліяй, адыходзячы ад дзяржаўных спраў у містыцызм; карона ставалася яму цяжарам...

Вікіпедыя: „Необычный характер Александра I особенно интересен потому, что он один из самых важных персонажей в истории XIX века. Аристократ и либерал, одновременно загадочный и известный, он казался своим современникам тайной, которую каждый разгадывает по своему представлению. Наполеон считал его «изобретательным византийцем», актёром, который способен играть любую заметную роль. Высокий, стройный, красивый молодой человек с белокурыми волосами и голубыми глазами. Свободно владел тремя европейскими языками. Имел прекрасное воспитание и блестящее образование. (...) Умер император Александр 1 декабря 1825 года в Таганроге от горячки с воспалением мозга в возрасте 47 лет. А. Пушкин написал эпитафию: «*Всю жизнь свою провёл в дороге, простыл и умер в Таганроге*». Позднее в 30-40 годах XIX века появилась легенда, что Александр, измученный угрызениями совести (якобы как соучастник убийства своего отца), инсценировал свою смерть вдалеке от столицы и начал скитальческую, отшельническую жизнь под именем старца Фёдора Кузьмича (умер 20 января (1 февраля) 1864 года в Томске)".

Кім жа быў Фёдар Кузьміч? Упершыню згадка пра яго з'яўляецца ў 1836 годзе, калі ён у Пермскай губерні, без дакументаў, ехаў у невядомым напрамку. На яго спіне былі сляды ўдараў кнутом. Улады палічылі яго *бродягой*, і прысудзілі яму яшчэ дваццаць ударaў, чым ён паказаўся быць вельмі задаволеным. Падпісаць прыгавор ён адмовіўся, спасылаючыся на непісьменнасць. Пасля яго саслалі ў Томскую губерню, дзе ён жыў у розных гаспадароў, аднак пасля, беручы пад увагу яго цягу да самотніцтва, яму пабудавалі асобную келлю. Ніколі не прымаў грошай, а калі браў нейкія падарункі, дык адразу раздаваў іх патрабуючым. Навучаў дзяцей граматыцы, але нікому, нават дзецям, не навязваў ніякіх сваіх настаўленняў. Шчыра пасціў, але не патрабаваў такога ад іншых. Калі людзі цікавіліся, ці не цяжка яму, адказваў, што цяпер ён свабодны і незалежны, а раней трэба было пра многае турбавацца. Калі яго наведваў іркуцкі архірэй Афанасій, яны размаўлялі на чужой мужыкам мове. Калі з'явілася вестка пра смерць імператара Мікалая I, пустэльнік вельмі доўга маліўся. Калі перад смерцю наведаў Фёдара спавядальнік і запытаў пра ягонае імя, той адказаў, што Бог ведае яго імя, а на пытанне пра імёны бацькоў адказаў, што Царква моліцца за іх. Калі гаспадар, у якога Фёдар дажываў свае дні, спытаў яго, ці ён часам не з'яўляецца царом Аляксандрам, ён адказаў: „Чудны дела твои, Господи... нет тайны, которая не откроется". Калі саветы ў 1921 годзе адкрывалі саркафагі расійскіх цароў, труна Аляксандра I аказалася пустою. У 1984 годзе патрыярх Пімен устанавіў свята Сабора сібірскіх святых, у лік якіх быў прылічаны і Фёдар Кузьміч — нябесны заступнік горада Томска. Фёдара Кузьміча пахавалі на тэрыторыі томскага Аляксееўскага манастыра; на яго магіле ў 1903 годзе паставілі часоўню, якую ў 1923 годзе разбурылі бальшавікі, а ў 2001 годзе вернікі паставілі там новую. З'явілася думка, каб рашыць загадку і шляхам генетычнай праверкі высветліць, ці цар Аляксандр I сапраўды адрокся ад трону і павёў манаскае жыццё, памёршы не ў 1825 годзе, але ў 1864, аднак высвятленне гэтай здагадкі, як і іншых расійскіх тайнаў, не прасоўваецца... Захаваўся царскі сказ: „Когда я вижу в саду пробитую тропу, я говорю садовнику: делай тут дорогу". „Трапа" пра „другое жыццё" цара ёсць, толькі дарога не прабіта...

Пара вярнуцца, аднак, у Нэплі, дзе прабіты паркавыя дарогі, але зарастаюць сляды, і адсюль спрабаваць, так як калісь цар Аляксандр, глянуць на другі бок Буга, у напрамку Берасця. Некалькі гадоў таму каля Нэпляў была пабудавана назіральная вышка, з якой магчымым было пабачыць славуты горад пры ўпадзенні Мухаўца ў Буг. Вышка неўзабаве згарэла. Аднак захоўваецца яшчэ адзін трансбужанскі помнік — гэта танк на ўзгорку за Нэплямі, які першым меў сфарсіраваць Буг у 1944 годзе і першым уехаць на тэрыторыю цяперашняй Польшчы.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Капліца Межаеўскіх

# 100-гадовы юбілей былога беластоцкага студэнта

У Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі Гродзенскай вобласці адбылася вечарына, прысвечана 100-годдзю з дня нараджэння стваральніка і першага дырэктара гэтага музея, арганізатара музея ў Валеўскай сярэдняй школе Навагрудскага раёна, заслужанага настаўніка Беларусі Міхася Петрыкевіча (1913-1999).

На юбілейнае мерапрыемства прыехалі яго сваякі з усёй Беларусі, а таксама з Літвы. Непасрэдны ўдзел у вечарыне памяці Міхася Петрыкевіча прыняла творчая інтэлігенцыя з Дзятлава, Слоніма, Гродна і Мінска.

Міхась Петрыкевіч нарадзіўся на Навагрудчыне. Пасля пачатковай школы і двухгадовай школы паступіў у Навагрудскую беларускую гімназію. У 1940-1941 гадах вучыўся на літаратурным факультэце Беластоцкага педінстытута. З пачаткам вайны вярнуўся дамоў. Потым яго забралі на фронт. А пасля вайны давучваўся ў Мінскім педінстытуце.

Сын Міхася Петрыкевіча, Валерый Міхайлавіч, падчас вечарыны ў Дзятлаве перадаў мне цікавы дакумент на рускай мове. Гэты дакумент адрасаваны быў у Навагрудскі раённы аддзел народнай адукацыі ад грамадзяніна Іосіфа Васільевіча Зазекі з Мінска. У заяве спадар Зазека паведамляў: „Пацвярджаю, што на самай справе грамадзянін Петрыкевіч Міхаіл Фёдаравіч падчас вучобы ў Беластоцкім педагагічным інстытуце па накіраванню Беластоцкага гарана працаваў з верасня 1940 года па красавік 1941 года настаўнікам па ліквідацыі бязграматнасці на абцасавай фабрыцы ў горадзе Беластоку. Я ў гэтыя гады працаваў намеснікам дырэктара па навучальнай частцы Беластоцкага педінстытута і даваў рэкамендацыю ў гарана для прыёму Петрыкевіча М. Ф. на працу настаўнікам па ліквідацыі бязграматнасці, што і пацвярджаю сваім подпісам. І. Зазека".


Фота Уладзіміра Хільмановіча

Выступае Валеры Красоцкі — унук Міхася Петрыкевіча

У пачатку 1942 года Міхась Петрыкевіч атрымаў загад з Любчанскай раённай управы з'явіцца на работу, за адмову — высылка на работы ў Германію або расстрэл. Уладкаваўся ў раённы дарожны аддзел рахункаводам. Выконваў некаторыя заданні падпольнай патрыятычнай групы, праз дарожнага майстра Францкевіча перасылаў патрэбныя звесткі партызанам. Нягледзячы на рызыку, Міхась Петрыкевіч дапамог залічыць фіктыўна на дарожныя работы звыш 150 чалавек, якім пагражала высылка ў Германію. Пазней удалося наладзіць сувязь з тым самым Іосіфам Зазекам, які працаваў ужо ў падполлі ў Свіслацкім раёне.

З ліпеня 1944 года па лістапад 1945 года Міхась Петрыкевіч служыў у Савецкай Арміі. Пасля дэмабілізацыі, у 1946 годзе, паступіў на другі курс Мінскага педінстытута. Яго закончыў у 1949 годзе. Затым працаваў у Карэліцкай школе, выкладаў беларускую літаратуру, псіхалогію, логіку. У 1951 годзе ён быў пераведзены ў Валеўскую сярэднюю школу Навагрудскага раёна на пасаду завуча. Там стварае невялікі, але цікавы краязнаўчы музей. Далёка за межы Навагрудскага раёна разнеслася чутка пра нястомнага краязнаўцу Петрыкевіча. Таму і прыехалі да яго з Дзятлава, каб запрасіць стаць дырэктарам музея, які арганізоўваўся.

З 1967 года Міхаіл Фёдаравіч працуе на Дзятлаўшчыне. А ўжо праз год Дзятлаўскі музей быў адкрыты для наведвальнікаў. Гэта быў адзін з лепшых музеяў у рэспубліцы.

У 1965 годзе Міхаілу Фёдаравічу было прысвоена званне заслужанага настаўніка школы БССР. За сваё жыццё ён быў узнагароджаны шматлікімі дыпломамі, медалямі, ганаровымі граматамі. Дзякуючы нястомнай пошукавай і даследчай працы, М. Ф. Петрыкевічу ўдалося адкрыць новыя імёны, вярнуць і ўвекавечыць забытую славу некаторых людзей. З яго ініцыятывы былі ўстаноўлены многія помнікі і адкрыты мемарыяльныя дошкі, а вуліцам прысвоена імя героя ці знакамітага земляка. Вяртанне гэтых імёнаў не заўсёды было простым.

З 1967 года Міхась Петрыкевіч друкаваў у рэспубліканскіх газетах і часопісах артыкулы на розныя краязнаўчыя тэмы. Вельмі шчыра сябраваў з беларускімі пісьменнікамі, асабліва з Уладзімірам Калеснікам, Уладзімірам Караткевічам, Янкам Брылём, Фёдарам Янкоўскім, Янкам Скрыганам і многімі іншымі. Дзесяткі кніг з аўтографамі захоўваюцца ў Дзятлаўскім музеі і ў сына Валерыя Петрыкевіча дома. „Міхасю Петрыкевічу — добраму сябру", — напісаў Янка Брыль на сваёй кнізе „Золак, убачаны здалёк" 11 мая 1979 года. На сваёй кнізе „Час і песні" Уладзімір Калеснік пакінуў такі аўтограф: „Міхаілу Фёдаравічу Петрыкевічу — па-сяброўску. У. Калеснік. 24 чэрвеня 1963 г.".

На юбілейнай вечарыне многія выступоўцы шчыра ўспаміналі пра Міхася Фёдаравіча. Прыгадвалі, як ён для Дзятлаўскага музея збіраў экспанаты па ўсёй Дзятлаўшчыне, вазіў іх, даставаў. Ён быў вельмі шчырым чалавекам. „Галоўнае — рабіць людзям дабро", — казаў Міхась Фёдаравіч.

Падчас ушанавання Міхася Петрыкевіча супрацоўнікі Дзятлаўскага райвыканкама пасмяротна занеслі яго імя ў ганаровую Кнігу Славы Дзятлаўскага раёна. Дакумент пра гэта і спецыяльны кубак былі ўручаны сыну Валерыю Петрыкевічу. Дарэчы, гэта другі раз імя Міхася Петрыкевіча заносіцца ў раённую Кнігу Славы. Першы раз яго занеслі, але потым, як палітычна ненадзейнага чалавека, выкраслілі. І вось новае вяртанне шаноўнага педагога і краязнаўца ў Кнігу вялікіх людзей Дзятлаўшчыны.

Вядомы беларускі мастак Мікалай Несцярэўскі, які родам з вёскі Бацюты, што каля Беластока, таксама завітаў на юбілей. Ён падараваў Дзятлаўскаму музею партрэт Міхася Петрыкевіча.

У дзень ушанавання Міхася Петрыкевіча ў Дзятлаўскім музеі была арганізавана выстава, прысвечаная жыццю Міхася Фёдаравіча Петрыкевіча, гучалі песні, адбылася паездка ў Валеўскую сярэднюю школу Навагрудскага раёна, дзе шмат гадоў ён працаваў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**




Калісьці на беларускіх землях былі так званыя „дарэктары" — хлопцы-падлеткі, якія самі навучыліся грамаце і наймаліся вучыць ёй іншых дзяцей за пэўную плату. Пра гэта добра распавядаецца ў паэме Якуба Коласа „Новая зямля": „Ужо вучаць дзеці ў школцы людзі; / Пара б і нашым за навуку... / Аддаць у школку іх — не ў руку: / Давай харчы, наймі кватэру... / І бацька тут, як на паперу, / Стаў вылічаць расходы, страту / І кончыў тым: лепш к сабе ў хату / Не трэба й кланяцца Яхіму / Наняць дарэктара на зіму, / Ну хоць бы Яську Базылёва. / Дамо рублёў тры і — гатова! / А хлопец спрытны да навукі. / — Ну, Яська — майстар на ўсе рукі: / Як да сярпа, так і да кнігі".

Цяпер, як кажуць, усе пісьменныя і разумныя, і нават дзяцей сваіх літарам самастойна вучаць задоўга да таго, як тыя пераступяць школьны парог. Разам з тым ідэя навучання іншых людзей, прыязджаючы да іх, не засталася ў мінулым, праўда, крыху змянілася па форме і змесце.

Адным з прыкладаў такога сучаснага „дарэктарства" можна назваць грамадскую ініцыятыву „Лятучы ўніверсітэт". Дзякуючы яму, у розныя гарады Беларусі прыязджалі навукоўцы — гісторыкі, мастацтвазнаўцы, філосафы і іншыя спецыялісты, якія распавядалі пра свае погляды на беларускую рэчаіснасць паспалітай аўдыторыі, якая не мусіла плаціць за лекцыі ні граша, хаця насамрэч заняткі былі не нізкага ўзроўню. Каб крыху пазнаёміцца з тым, што такое „Лятучы ўніверсітэт", варта зазірнуць на яго сайт, які месціцца па адрасе **http://fly-uni.org**.

Сайт выглядае даволі сумнавата — на ім пераважае шэры колер і някідкія назвы артыкулаў. Праўда, гэтая нудота лёгка кампенсуецца зместам сайта і яго насычанасцю інфармацыяй.

„Лятучы ўніверсітэт — гэта праграма стварэння сапраўднага сучаснага ўніверсітэта ў Беларусі і для Беларусі", — гаворыцца на старонцы „Пра нас", якая знаходзіцца ўверсе цэлага выяўлення пад назвай сайта і лозунгам „Мысленне, культура, развіццё".

„Мы не імкнёмся як мага хутчэй да фармальнага стварэння ўстановы ці атрымання афіцыйнага статусу. Лятучы ўніверсітэт — гэта жывы, творчы працэс, гэта супольнасць, вольная ад традыцыйных зацвярдзелых форм, гэта гульня як форма сумеснага авалодання светам: мінулым, будучым і сучаснасцю", — прэзентуюць далей сваю дзейнасць супрацоўнікі „Лятучага ўніверсітэта".

Яны падкрэсліваюць, што іх сучасны ўніверсітэт адкрыты свету, ён — адзін з галоўных суб'ектаў у справе фармавання і развіцця нацыі. „Тое, пра што дыскутуецца на публічных пляцоўках, мусіць быць рамкамі і тэмамі адукацыйнай і даследча-распрацоўчай працы. У сваю чаргу ідэі, прапановы, ацэнкі ды іншыя „прадукты" ўніверсітэцкай працы — гэта тое, з чым універсітэт выходзіць да Гораду і Свету, што ён прапануе краіне. Публічныя пляцоўкі — месца сапраўднай праверкі вартасці інтэлектуальнага пошуку і месца самавызначэння тых, хто імкнецца быць нацыянальнай элітай", — распавядаецца на сайце.

Пакуль заняткі „Лятучага ўніверсітэта" праходзілі толькі ў Мінску, Магілёве і Брэсце. Разам з тым яго кіраўнікі арганізуюць летнікі, друкуюць выданні, ладзяць канферэнцыі, праводзяць вандроўкі па найбольш важных для фармавання беларускай нацыі мясцінах.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**




Герой антысавецкага супраціву

# 90 гадоў з дня нараджэння Самсона Пярловіча

Беларускі паэт, удзельнік патрыятычнага падполля Самсон Пярловіч нарадзіўся 13 жніўня 1923 года ў вёсцы Катольшы Навагрудскага раёна. У час Другой сусветнай вайны і фашыстоўскай акупацыі быў прымусова вывезены на тэрыторыю Аўстрыі. Пасля вяртання на радзіму супрацоўнічаў з навагрудскай раённай газетай. У 1947 годзе стаў адным з арганізатараў антысавецкай беларускай падпольнай арганізацыі „Саюз вызвалення Беларусі". Быў прызначаны ўпаўнаважаным па Навагрудскім раёне. Арганізацыя, створаная навагрудскай моладдзю ў першы пасляваенны год, мела сваёй галоўнаю мэтай „стварэнне самастойнай Беларускай дзяржавы", у дасягненні чаго не выключалася і збройнае змаганне. Аднак пасля знаёмства з Аляксандрам Бажко, супрацоўнікам баранавіцкай газеты, што назваўся сябрам іншай антысавецкай арганізацыі „Чайка", і які быў таемным агентам НКВД, арганізацыя была выкрыта. Паводле ўспамінаў Пярловіча, Бажко расказаў яму, што ў Баранавічах таксама існуе падпольная арганізацыя, а сам ён знаходзіцца ў вышэйшым звяне падпольнай кіроўнай структуры. Пярловіч паверыў правакатару.

У выніку Самсон Пярловіч 30 траўня 1947 года быў арыштаваны. Утрымліваўся ў Баранавіцкай следчай турме „Крывое кола". Пры арышце ў яго быў знойдзены верш „Паднімаецца крыўда", за які з мінскай „амерыканкі" вадзілі пад канвоем на допыт да наркама НКВД Лаўрэнція Цанавы. Таму было цікава пабачыць юнака, які пасмеў узняць голас супраць Сталіна і яго памагатых. У вершы былі такія радкі: „Люцыпар — кат Сталін — старых і малых, запрогшы ў калгасныя ёрмы, нявінных крывёй суцяшае іклы, каму колькі жыць ставіць норму".

На працэсе, які праходзіў 29 жніўня — 31 жніўня 1947 года ў Баранавічах, асуджаны ваенным трыбуналам да 10 гадоў зняволення з пазнейшай высылкай. Выдадзеных правакатарам васемнаццаць патрыётаў былі засуджаны на розныя тэрміны зняволення ў канцлагерах. Пярловіч адбываў пакаранне на лесапавале ў лагеры Усць-Вым (Комі АССР), а з 1949 года — на будаўніцтве шахтаў у спецлагерах Караганды, што ў Казахстане. Паплечнік Пярловіча, Кастусь Рамановіч, успамінаў як яны разам прайшлі жахі савецкага канцлагера, як Пярловіч складаў вершы без алоўка і паперы і яны завучвалі іх на памяць.

Вызвалены 3 студзеня 1956 года. Высылку мусіў адбываць у Сарані Карагандзінскай вобласці, але яна была адменена. У Беларусь вярнуўся восенню 1956 года і працаваў на заводзе газавай апаратуры ў Навагрудку. У 1980 годзе пайшоў на пенсію. І хоць дажыў да незалежнасці Беларусі, так і не быў рэабілітаваны дзяржаўнай уладай.

Памёр Самсон Пярловіч 14 снежня 2001 года ў Навагрудку, пахаваны на мясцовых могілках. Пасля сябе паэт пакінуў тры зборнічкі: „Бяссмертнік" (Менск 1994), „Заяц на бярозе" (Навагрудак 1995), „Чарадзейны агонь" (Навагрудак 1998). Пазтычныя радкі вязня савецкіх канцлагераў, на жаль, застаюцца актуальнымі дагэтуль: „Хай даўно ўжо няма Валадарскага тога, з яго імем турма людзей душыць, ой многа!..".

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Палякі і беларусы супольна ўшанавалі памяць палеглых

У Седльцах беларусы, палякі і расіяне сустрэліся 31 ліпеня, каб ушанаваць памяць палеглых за вызваленне горада з-пад гітлераўскай акупацыі ў 1944 годзе. Горад у выніку тыднёвых баёў занялі салдаты I Беларускага фронту Чырвонай Арміі і польскія партызаны, галоўным чынам з АК, БХ і АЛ. На святкаваннях прысутнічалі прадстаўнікі пасольстваў РБ — Аляксей Зелянко і Эдуард Швайко (на здымку) ды РФ — Канстанцін Кабакоў. На ўрачыстасць прыбылі таксама дэпутатка Сейма ад СЛД Станіслава Пшондка, віцэпрэзідэнт горада Седльцы Яраслаў Главацкі, сакратар Сядлецкага павета Анджэй Рымуза. Малітвы на ваенных могілках прачыталі ксёндз палкоўнік Анджэй Дзівульскі і настаяцель праваслаўнага прыхода айцец Славамір Кохан.

Эдуард Швайко сказаў, што «тыя, хто аддаў сваё жыццё ў баях за Седльцы, гэта былі звычайныя, у пераважнай большасці маладыя людзі, далёкія ад палітыкі. Сумленна выконвалі яны свой салдацкі абавязак, змагаючыся з нашым супольным ворагам. Сёння вядома, што тыя салдаты аддалі сваё жыццё не надарэмна, палеглі, каб ніколі больш не было гэтай жудаснай з'явы, якой быў фашызм. Загінулі яны за тое, каб мы сёння маглі жыць». Старшыня Павятовай рады ветэранаў капітан Рышард Хранюк адзначыў, што тым, якія аддалі за нас жыццё, мы абавязаны памяць. Маладыя пакаленні перш за ўсё павінны імкнуцца, каб такія катаклізмы як нацызм і вайна ніколі не паўтарыліся, а супрацоўніцтва з суседнімі народамі, перш за ўсё з беларусамі, расіянамі, украінцамі і літоўцамі было як найлепшае. «Памятаючы аб мінулым, выконваем наша абавязацельства перад будучыняй», — адзначыў Рышард Хранюк.

**Адам БОБРЫК**

# „Цаглінкі” на святкаваннях Дня горада Высокае

Фальклорныя калектыў „Цаглінкі” са Старога Ляўкова лічыў, што запрашэнні на гастролі ў Беларусі ў гэтым годзе скончыліся. А тут неспадзяванка — прыйшло запрашэнне з Высокага. Старшыня Высокаўскага гарвыканкама Леанід Бірук і дырэктар Цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі Людміла Дудар запрасілі стараляўкоўскіх самадзейнікаў выступіць 28 ліпеня на мерапрыемстве, прымеркаваным да 519-й гадавіны заснавання горада і 69-й гадавіны вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Разам з горадам юбілеі адзначалі яшчэ тры мясцовыя ўстановы: малочны завод „Белавежскія сыры” (75 гадоў), філіял Высокаўскага дарожнага рамонтна-будаўнічага ўпраўлення № 137 (50 гадоў) і Музычная школа (35 гадоў). На сустрэчу з самым заходнім горадам Беларусі адправіліся мы на пяці легкавых машынах.

Святкаванне Дня горада пачалося мітынгам на гарадскім скверы, а пасля працягвалася ў парку. Сцэна пад адкрытым небам чакала артыстаў. Ля сцэны экспанаваліся карціны мастакоў-удзельнікаў беларуска-польскіх пленэраў, што праходзілі ў мінулым годзе і сёлета ў Высокім. Высакаўчане і іх госці прагульваліся ўздоўж латкоў, каштавалі шашлыкі і салодкія смакоцці. Дзеці выстройваліся ў чэргі да надзіманых горак, дарослыя цікавіліся прапанаванымі ім гульнямі, а на стадыёне змагаліся футбольныя каманды.

Вядучымі мастацкай часткі на сцэне былі паэтка і журналістка газеты „Навіны Камянеччыны” Настасся Нарэйка, вучаніца мясцовай сярэдняй школы Ганна Праснова і дырэктар дома культуры Алег Грыпічук. Яны ўзорна і дасканала выканалі сваю ролю. Падумалася мне, што такія вядучыя прыдаліся б і на нашых беларускі фэстах...

Спачатку намеснік старшыні Камянецкага райвыканкама Мікалай Антончык уручыў на сцэне падарункі заслужаным жыхарам Высокага. Атрымалі іх старшы майстар дарожнага рамонтна-будаўнічага прадпрыемства Аляксандр Штаненка, слесар фірмы „Камянецрайгаз” Васіль Ляўчук і дырэктар дома культуры Алег Грыпічук. Падарункі школьнікам уручыў старшыня гарвыканкама Леанід Бірук. За поспехі ў адукацыі атрымалі іх Ганна Калашнікава і Дзмітры Курняўка, а ў спорце — Раман Карпук і Ігар Сачкоў.

Музычную праграму падрыхтавалі педагогі Цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі, самадзейнікі з Высокага, Макарава, Расны, Войскай, Брэста, студыя „Радасць мая”, тэатр гумару, гульні і песні „Хмелеўскія валацугі” і яго кіраўнік Наталля Дырман. А цвіком праграмы стала выступленне „Цаглінак” пад кіраўніцтвам Мікалая Мяжэннага. У гісторыі калектыву быў гэта 801 канцэрт (юбілейны 800 адбыўся 13 ліпеня падчас Купалля ў Нараўцы).

Чарговым пунктам святочнай праграмы стаў „Сыр-шоў” з нагоды юбілею малочнага камбіната „Белавежскія сыры”. Гледачы актыўна адказвалі на „сырныя” пытанні, галасавалі за лепшы гатунак гэтага прадукту, пералічвалі назвы страў з сырам. Праводзіўся таксама конкурс на лепшую „сырную” ўсмешку.

Пасля гараджане і госці на стадыёне падчас выступлення пагранічнікаў назіралі, як яны затрымліваюць парушальніка граніцы і як працуе службовы сабака.

Наступны канцэрт прайшоў пад знакам рэтра-музыкі. Публіка цёпла прымала артыстаў. Людзі падпявалі кожнай песні, танцавалі, фатаграфавалі і фільмавалі на памяць. А калі выконвалася заключная песня, неба над Высокім рассвятлілі феерверкі.

Усё, што мы пабачылі і пачулі падчас Дня горада Высокае, вельмі нас уразіла, захапіла. Мы сустрэліся з сябрамі, наладзілі творчыя кантакты. Калектыў „Цаглінкі” вяртаўся са свята з паднятай галавой, падбадзёраны сардэчнасцю, з якой сустрэлі нас браты і сёстры з Беларусі.

**Віктар БУРА**

# Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — прыказку.

1. гідратэхнічна-дарожнае збудаванне з бярвення, галля, ламачча = 14 _ 16 _ 7 _ 8 _;
2. бацька Сема = 12 _ 10 _ 11 _;
3. не разявай яго на чужы каравай = 15 _ 3 _ 2 _;
4. вялікая сетка = 4 _ 13 _ 19 _ 20 _;
5. вельмі модная песня, фільм, кніга = 1 _ 6 _ 9 _;
6. калючка на расліне = 17 _ 18 _ 5 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 28 нумара**

Дуга, схема, прэрыя, акын, злак, Якуцк, Рым, як, Лукша, паклёп, вырай, яздок, Карпюк.

Рашэнне: **Умелая прыказка як пры мяшку прывязка**.

Кніжныя ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 18.08 — 24.08

**(22.03. — 20.04.)** 19-23.08. пагражаюць табе нямілыя сюрпрызы і спазненні; пільнуйся асабліва ў падарожжы. У пачуццях бурліва і рамантычна. Схочаш дараваць усё свайму партнёру, а нават узнагародзіць яму перажыванні. Абследуйся ў лекара — можа табе не хапаць магнію, калію ці жалеза. Выйдзеш лепш на кампрамісах, чым загадах.

**(21.04. — 21.05.)** Калі маеш праблемы з дыхальнымі шляхамі, бяжы да лекара ўжо на пачатку тыдня. Пасля 21.08. дамаўляйся ў дантыста. Аддай больш часу адпачынку і ўласнай красе. Можаш сесці на лёгкую дыету. На працы пашукай саюзнікаў, пазнаёмся бліжэй з новымі калегамі. З 21.08. (да 25.08.) трэба будзе брацца за нялёгкія рашэнні.

**(22.05. — 22.06.)** Знойдзеш добры метад, каб сцішыцца, супакоіцца; варта выбрацца ў кароткі адпачынак без „хваста”. Шмат змен, шмат рызыкі, але і шанц на выйгрыш. Можаш шмат здабыць упартасцю, але ўрокі жыцця могуць быць балючыя. Не забывайся аб здаровым розуме! З 23.08. (да 27.08.) могуць быць пустыя дыскусіі, бесталковыя спрэчкі і нятрапныя рашэнні і дзеянні.

**(23.06. — 23.07.)** Аж да 24.08. зоркі дбаюць аб тваю будучыню; заінвестуеш — не пашкадуеш! 20-24.08. — удачы на працы і ў фінансах; можаш падмацавацца немалым грашом! 21.08. можаш даверыць неадпаведнай асобе, што блага адаб'ецца на тваіх планах; тады лепш разлічвай на сябе самога! З 22.08. (да 26.08.) будзь вельмі асцярожны, каб не заблытацца ў татальны раман. Нават нявінны флірт можа выклікаць лавіну катастроф!

**(24.07. — 23.08.)** 20-24.08. — дапамога зорак у важных разумных рашэннях, у дамовах, зменах. Толькі не хапай сарака сарок за хвост. Не вер злым словам на тэму тваёй каханай асобы. 21-22.08. варта пайсці на акупунктуру ці акупрэсуру.

**(24.08. — 23.09.)** З 22.08. (да 26.08.) твая палавінка можа аднесціся да цябе не вельмі элегантна. Толькі Дзевам народжаным 25-30.08. здзейсніцца сон пра вялікае каханне. Адмоўся хоць ад дэсерту, а твая фігура стане бліжэйшай да ідэалу. Ад 23.08. у тваім знаку прабывае Сонца, і маеш шанц на выдатны настрой, ідэальную форму; але не перанатужвайся фізічна. З 22.08. (да 28.08.) не вырашай важнага ў фінансах, бо можаш шмат страціць. Ёсць шанцы, што ў кар'еры не наробіш сабе ворагаў (20-24.08.).

**(24.09. — 23.10.)** Варта выбрацца ў сямейнае падарожжа, адарвацца ад праблемаў штодзённшчыны. Хаця планеты зварухнуць цябе да звышактыўнасці, раўнаваж яе адпачынкам і прыемнасцямі. 24.08. утаймуеш гонку думак. Выбірай натуральныя метады лячэння. У кар'еры пакінеш ззаду канкурэнцыю, дацэніш сваю вартасць.

**(24.10. — 22.11.)** Да 24.08. будзе кіраваць табою твой дух саперніцтва; найлепш будзеш адчуваць сябе ў гонках, нават з часам. Будзеш ведаць, чаго хочаш! Але з 23.08. (да 27.08.) благаватыя варожбы для твайго пачуццёвага жыцця. З-за дробнага непаразумення на валаску павісне лёс тваёй сувязі.

**(23.11. — 22.12.)** 19-23.08. прытрапяцца табе незвычайныя нагоды. Маеш шанцы ўбачыць перад сабою магчымасці, якія табе і не сніліся! 23 і 24.08. будзеш мець магутную падтрымку зорак у энергіі і задумах. Маеш шанц зрэалізаваць свае планы і адчуць сябе на адпаведным месцы. Можаш апраўдацца ў ролі шэфа! Можа цяпер ідзі „на сваё”?

**(23.12. — 20.01.)** Маеш шанцы на поспехі ў адзіночку. Не задзірай з жанчынамі. Не еж вострага. З 22 (да 26.08.) будзеш пераканаўчы, але яшчэ і ўпарты; не пераборшч, бо не заўсёды варта ўпірацца на сваім. З 24 (да 28.08.) твае пачуцці стануць перад сур'ёзным выпрабаваннем; лепш неабдумана не вырашай!

**(21.01. — 19.02.)** 19-23.08. наступіць для цябе час цяжкіх выбараў, магчымыя нават расстанні. Калі надалей не ўдалося табе чагосьці дасягнуць, пара вызначыць сабе новыя мэты. Адкладзі на пасля важныя размовы. Пільнуйся ад лакомства, бо калі нават страўнік дасць сабе рады, можаш папаўнець. Ад хандры ўратуе цябе работа. Меркурый ад 24.08. падтрымае цябе ў фінансавых рашэннях.

**(20.02. — 21.03.)** Не замятай старой справы пад дыван, бо вернецца. Выдатны настрой прынамсі да 23.08., але з 23.08. пагоршыцца форма; еж арэхі і рыбу. З 23 (да 27.08.) паявіцца шмат памылак і праблем; пільнуй дамоваў і важных сустрэч.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 100 egz.

**Цётка Верка таксама прыйшла на бяседу, хаця глухаватая, а спявала не горш славутых „Прымакоў”! Паверце, „Сяброўская бяседа” ўсіх аздараўляе...**

# Дзе сябры — там і Бяседа!







*Цётка Верка таксама прыйшла на бяседу, хаця глухаватая, а спявала не горш славутых „Прымакоў”! Паверце, „Сяброўская бяседа” ўсіх аздараўляе...* — напісала ў сваім вершы Галінка Ляховіч з Гарадка. — *А як не прыходзіць у Барык старынны? Ён для ўсіх ласкавы, прыхільны, быццам свянцоная вада! Нашая „Бяседа” адзіная, бясцэнная, і думаю, што роўных ёй у свеце няма!”*

„Дзе сябры, там і бяседа” — падтакнуў ёй у сваіх вершах на конкурс на найлепшы верш пра XIV выпуск „Сяброўскай бяседы” 27 ліпеня ў Гарадку мафусаіл гарадоцкіх паэтаў Анатоль Парэмбскі і адзначыў у іншым творы, што гэтая „ў цяньку бяседа” — бо сапраўды, шматтысячнае сёлетняе беларускае мерапрыемства, тыдзень пасля „Басовішча”, хоць буйнае і шумнае, хаваецца пасярод карабельных сосен ва ўрочышчы Барык паміж Станцыяй Валілы (дзе жыве паэт) і Гарадком. У тым і яго смак ды атмасфера, іншыя чым, скажам, у амаль блізнячай маладой „Прымацкай бяседы” ў Міхалове. А госці — амаль тыя самыя, аматары беларушчыны і прыемнага правядзення летняга часу. Імпрэзу арганізаваў Гмінны цэнтр культуры ў Гарадку і Гарадоцкая гміна, пры фінансавай падтрымцы Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, а патранат над імпрэзай трымалі Тэлебачанне Беласток, Радыё Беласток, Беларускае Радыё Рацыя і сайт *Wrota Podlasia*. Назву мае свята *Беларускі фольк-фестываль „Сяброўская бяседа”*, як пра яе пішуць у польскім друку і адзначаюць, што збіраецца на ім нават да 10 тысяч гледачоў, у вельмі маляўнічай атмасферы свойскага пікніка.

„Сяброўская бяседа гамоніць наўскрозь! Шаноўныя людзі, прыміце паклон наш, што вам расспяваны Гарадок прынёс! Як вецер вясёлы гамоніць над гаем, як сонца праменні нясе, так родную песню нам сёння спяваем, на шчасце прыміце яе вы ўсе!” — вітаў, пачынаючы імпрэзу, гаспадар сцэны „Расспяваны Гарадок”.

— Ужо чатырнаццаты гэта канцэрт пад такой назвай, — кажа Юры Хмялеўскі, дырэкатр ГЦК. — Раней былі ўжо тут кожны год беларускія фэсты. На пачатку, калі дырэктарам ГЦК стаў Юры Астапчук, у 2000 годзе, ён прыдумаў, супольна з Беларускім таварыствам, каб рабіць народную сустрэчу калектываў, у сяброўскім стылі. Імпрэза разрасталася. Калі я стаў дырэктарам Гарадоцкага дома культуры (гэта ўжо мая пятая „Сяброўская бяседа”), супольна з Праграмнай радай ГЦК вырашылі, што трэба крышку „асвяжыць” гэтую імпрэзу, бо такіх фэстаў у нас шмат, і самыя спевы, і самыя народныя касцюмы гэта замала. І зрабілі мы больш разнастайную праграму. Каб былі таксама канцэрты і эстрадных гуртоў, каб запрашаць і гасцей — зоркі з Польшчы. Ад мінулага года ўключылі мы сюды канцэрт у рамках „Падляшскай актавы культур”. З Беларусі запрасілі мы тры ансамблі. Хор народнай песні „Радуйся” з Мінска з намі ўжо сябруе, у нас ён чарговы раз. І ўпершыню прыехалі два калектывы з Кобрына і Кобрыншчыны — „Фантазія” ды „Ясніца” Стрыгаўскага дома культуры пад кіраўніцтвам Яўгена Гурскага.

У першай частцы „Гарадок просіць у госці” прэзентаваліся ансамблі, дзейнічаючыя пры ГЦК у Гарадку, наперамен з калектывамі з рэгіёна і Беларусі. Апрача песень вельмі адмысловыя вядучыя канцэрт (дзяўчаты з гурту „Калінка” з Залук) прадстаўлялі скетчы і вясёлыя сцэнкі, спасылаючыся на беларускія абрады на Падляшшы, але і парадоксы сучаснасці. У другой частцы фэсту тыповы фальклор уступіў месца папулярнай эстраднай фолькавай музыцы. Выступілі беларускія гурты з Падляшша і Беларусі, а таксама „Говэрля” — энергетычная моладзевая фольк-рокавая капэла з Вроцлава, чэрпаючая інспірацыі з украінскай, польскай і лэмкаўскай народнай музыкі. Група „Лі-Банд” прыгадала, між іншым, песні Анны Герман. „Квартэт з-пад Сямятыч” успомніў клімат даўніх сельскіх „забаў” з 1960-1970-х гадоў. З V Падляшскай актавы культур прыехалі ансамблі „Ловзар” (Польшча — Чачня) і цыганскіх песень „Rada Dance Art”. Зоркай сёлетняй „Бяседы” былі легендарныя „Скальдове”. Праз сцэну правінулася больш за 200 асоб у тым ліку 25 меншых і большых груп. Ад сонечага пасляпоўдня да позняй ночы фэст паступова пераходзіў у стадыю вялікай танцавальнай забавы. У міжчасе рэкамендавалася традыцыйная беларуская кухня і паказ феерверкаў. Гледачы маглі таксама набыць запісы з беларускай музыкай і кнігі з аўтографамі аўтараў, у тым ліку з гарадоцкай літаратурнай групы „Каласы”, пакаштаваць стравы з бяседных прылаўкаў беларускай кухні, набыць майстарскія вырабы народнага рукадзелля. У конкурсе на верш твораў пра свята было дзевяць, у тым ліку два па-польску, ад сямёх аўтараў, ад Анатоля Парэмбскага, да 18-гадовага Адама Саласкевіча, чый вялікафарматны верш павіс на плоце. Журы было заклапочанае — вершы былі выдатныя, усе на высокім узроўні, між іншым Янука Грыцука, які ці не першы раз склаў верш па-беларуску, з фрагментам новага сцэнічнага абразка Галінкі Ляховіч, але канчаткова перамог верш Антона Залуцкага, інакш Францішка Апановіча з Залук. Заклікае ў ім: *Забірай, браток, сямейку ды карзіначку вазьмі, найдзі месца пад цудрэўкам, весяліся ты з людзьмі! Дзе не глянь — народ вясёлы, і на сцэне, і пры ёй. Стаў здаровым кожны кволы. Колькі шчасця! Божа мой! Ляціць рэха па-над дрэвы, паўтарая песні бор. Пяюць справа, пяюць злева. Так паўстаў вялізны хор! А музыка льецца, льецца, ногі самі ў тан ідуць. А яшэ парсюк пячэцца, яшчэ конкурсы вядуць...*

— Няма Кастуся Казлоўскага, адышоў, і наша літаратурная група крыху кульгае, — уздыхае Янук Грыцук. — Ён умеў заняцца ўсім, таксама і рэпетыцыямі, калі мы як група рыхтавалі выступленні на мерапрыемствах па яго сцэнарыі. Цяпер неяк нам не клеіцца. Нядаўна была яго першая гадавіна, памёр у мінулы халодны май. Успаміналі Косцю. Хто знойдзецца, каб нас зноў аб'яднаць? Трэба мець характар і „дрыг” да гэтага, каб весці групу аўтараў, якія пішуць на розных мовах. Людзі нараджаюцца з рознымі талентамі — адзін піша, іншы спявае ці танцуе, але каб людзей яднаць і кірававаць імі — трэба ўмець.

„Сяброўскі канцэрт пажаданняў” са сцэны спраўна і па-беларуску вялі дзяўчаты з залучанскай „Калінкі” — Аня, Сільвія, Агнешка, Юстына, Паўля, Багуся і Кася. Апрача гарадоцкіх калектываў („Расспяваны Гарадок”, „Каліна”, „Асенні ліст”, „Вэна” „Вэна-міні”, „Хутар”, „Казка”) у гэтым адмысловым фестывалі беларускай песні-біс грымнулі сваёй песняй бельскія „Васілёчкі”, вілінаўскія „Верасы” (гміна Мельнік), гайнаўскае „Рэха пушчы”, „Нараўчанкі”, „Чыжавяне”, махнацкія „Жаваранкі”, міхалоўскія „Макар-данс” і „Same Gwiazdy”, нарваўскія „Нарва” і „Арт-Пронар”, сямятыцкі „Квартэт”, беластоцкая „Сказка”, крынская „Зараніца”... У танцы і пад песню завіравалі гайнаўская „Перапёлка”, „Ясніца”, „Фантазія” і „Радуйся” з Беларусі. Глыбокай ноччу канцэрты далі „Скальдове”, маладая „Калінка” з Залук, „Говэрля” і „Нарва”. А да самага світання народ гуляў з „ЛІ-Бандам” і міхалоўскім „Сакрэтам”. Пыл пад сцэнай і па баках амфітэатра час ад часу прыбіваў лёгкі дождзжык, што і крыху ахалоджвала бушуючую кроў гасцей імпрэзы розных пакаленняў.

*Я тым часам слухаў канцэрту з бутэлькай раствору,* — жартуе ў сваім вершы спадарыня Галінка словамі ўдзельніка Яшкі, — *усіх калектываў так і не змог палічыць...*

У прысутнасці гасцей усялякіх чыноў, пакаленняў, нацый, палітычных груповак, тэмпераментаў і полаў быў урачыста ўзнагароджаны Сярэбным крыжам заслугі дырэктар Гарадоцкага цэнтра культуры, яшчэ раней галоўны рэдактар „Гарадоцкіх навін”, па ініцыятыве Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі Польшчы, за дзейнасць на карысць захавання культурнай тоеснасці беларускай нацыянальнай меншасці. Адпаведны дакумент пра ўзнагароду падпісаў прэзідэнт РП Браніслаў Камароўскі.

— Гэтую ўзнагароду ўспрымаю не як асабістую ўзнагароду, а як ацэнку працы многіх іншых людзей, якія працуюць на ніве беларушчыны, — прызнаўся Юры Хмялеўскі. — Гэта ўзнагарода за супольную справу, якую мы вядзем на Беласточчыне ўжо шмат гадоў. Я ёсць у беларускім асяроддзі. Таму гэтая ўзнагарода таксама і для маіх сяброў, без якіх я не быў бы тым, кім ёсць, не быў бы дырэктарам Дома культуры, не быў бы рэдактарам. Шкада, што не дачакаўся гэтага спадар Сакрат Яновіч.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

ISSN 0546-1960